24 траўня 2019 | № 19 (630)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Новы прэзідэнт, новыя партыі**
Стар. 9



# З чаго пачнецца «эканоміка 4.0»?



Сяргей ПУЛЬША



**У партыйным часопісе кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Ігар Барысаў напісаў пра «эканоміку 4.0».**

Сутнасць артыкула ў тым, што «эканоміка 4.0» уяўляе сабой інтэлектуалізацыю і рабатызацыю вытворчасцяў. Непазбежным следствам гэтага з'яўляецца тое, што чалавек практычна сыходзіць ад вытворчасці — за выключэннем кантралюючых функцый. Але... Даброты, якія ствараюць робаты, трэба камусьці спажываць? Выробленую прадукцыю (на карысць чалавека) трэба камусьці прымаць?

Таму ў развітых краінах пачынаецца палітыка «безумоўнага базавага прыбытку». Гэта значыць, незалежна ад свайго сацыяльнага статусу кожны грамадзянін атрымлівае «безумоўны прыбытак». Эксперымент па яго ўвядзенні з 1 студзеня 2017 года праходзіць у Фінляндыі. Агульнаеўрапейскае апытанне ў красавіку 2016 года паказала, што 64% жыхароў Еўрасаюза падтрымалі б яго ўвядзенне. 35% дасведчаныя наконт такой працэдуры, 23% кажуць, што цалкам разумеюць сутнасць і задачы гэтай праграмы, 25% чулі пра яе.

Апошнім часам, калі я слухаю развагі пра «бітву за ўраджай» і «харчовую бяспеку», часцяком згадваю гэты артыкул. Асабліва калі прыходжу ў краму і бачу, што часнык у нас — кітайскі. Польскія яблыкі каштуюць танней за беларускія. Італьянскія таматы — таксама танней за айчынныя. Бульбу ў крамах купляюць, па маім досведзе, толькі па неабходнасці, танней узяць яе ў прыватнікаў на рынку. Не кажучы ўжо, вядома, пра экзатычную садавіну і гародніну.

Узнікае пытанне: ці ёсць у нас харчовая бяспека наогул? Да чаго гэта? Да эфектыўнасці нашай сельскай гаспадаркі. Калі польскія яблыкі каштуюць танней за беларускія, і яны лепшыя — хто купіць беларускія? Калі мы закупляем таматы ў Турцыі — ці варта марнаваць грошы на іх вытворчасць тут? І ніхто не кажа, чаму замежныя прадукты каштуюць у нашых крамах значна менш, чым айчынныя.

Тут і ўзнікае ідэя ў рэчышчы «эканомікі 4.0» і «безумоўнага базавага прыбытку». Можа, варта проста ліквідаваць нашу сельскую гаспадарку, а ўсім, хто там працуе, выплачваць той самы «ББП»? Ну навошта нам плаціць заробак, субсідыі і іншыя бонусы, калі замежная прадукцыя лепей, танней, і, можа, таму больш прысутнічае ў нашых крамах? Нашы ж, так ці інакш, атрымаюць страты, калі іх прадукцыя даражэйшая і горшая? Калі беларускія яблыкі і агуркі каштуюць больш, чым польскія?

Нам патрэбна інавацыйная эканоміка. І яе якраз можна пачаць з сельскай гаспадаркі, яе кардынальнай рэформы. Давайце выдаваць субсідыі тым, хто хоча і можа працаваць на зямлі. Давайце субсідаваць эфектыўныя гаспадаркі. Мяса-малочны комплекс у нас нядрэнны — яму і дамо шанц на развіццё. А астатнім — ці важна ім, як яны атрымаюць грошы? Як субсідыю ці як «безумоўны базавы прыбытак»?

Многія скажуць, што беларускага бюджэту на гэта не хопіць. Але, паводле перапісу насельніцтва 2009 года, 70% беларускага насельніцтва жыве ў гарадах і не ўдзельнічае ў аграрнай вытворчасці. Забяспечыць астатнія 30% «безумоўным базавым прыбыткам» за кошт сродкаў, зэканомленых на пасяўной і ўборачнай — думаю, рэальна.

**Нам патрэбна інавацыйная эканоміка. І яе можна пачаць з сельскай гаспадаркі**

Безумоўна, ідэя патрабуе дапрацоўкі. Трэба думаць, што зрабіць з тымі, хто гатовы працаваць на зямлі. Але цяпер ёсць мноства магчымасцяў — экапрадукцыя, аграгарадкі, экатурызм. Людзі, якія перасяляюцца з гарадоў у вёску, знайшлі сваю нішу і папулярнасць. Варта ўзгадаць у гэтай плыні адно толькі Андруся Горвата з яго казой і яго кніжкамі.

Хто можа нешта рабіць — няхай робіць, і ім трэба падтрымка. Ім падтрымку і можна забяспечыць. Астатнім, магчыма, у рэчышчы «эканомікі 4.0» можна забяспечыць базавы даход. У любым выпадку, ён не будзе меншым, чым цяпер заробкі ў тых, хто працуе ў разнастайных СВК і аграрных вытворчасцях. Калі яны хочуць працаваць — хай працуюць. Вырошчваюць экалагічна чыстую прадукцыю, развіваюць вытворчасць, укладаюць туды душу, рукі і ўменні. А астатнія... Можа, хай траву косяць і за кошт «базавага даходу» жывуць?

Зразумела, што гэта толькі фантастыка. Але фантастыка, верагодна, з перспектывай на рэалізацыю. Калі ў нас бульба ў краме іспанская, а грэчка — расійская, можа, не трэба нам такая «сельская гаспадарка»? Можа, пашукаць нешта незвычайнае?

Працяг тэмы на стар. 5 – 8 »

# Закон аб падтрымцы беларускай мовы не патрэбны

НЧ

**Дэпутатка Алена Анісім атрымала адказ з Адміністрацыі прэзідэнта і Міністэрства культуры наконт праекта Закона аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы.**

«Цуда не адбылося», — каментуе яна. На Карла Маркса, 38 пагаджаюцца, што беларускую мову трэба развіваць, але лічаць, што ўсе неабходныя законы на гэты конт ужо прынятыя.

АП нагадвае, што па Канстытуцыі ў Беларусі — дзве дзяржаўныя мовы, і кожны мае права карыстацца роднай мовай і выбіраць мову зносін. Дзяржава пры гэтым гарантуе свабоду выбару мовы выхавання і навучання. А развіццё і ўжыванне розных моў рэгулюецца законам «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», прынятым у 1990-м годзе.

«Такім чынам, пытанні ўжывання беларускай мовы ўрэгуляваны дзеючым заканадаўствам», — падсумоўваецца ў дакуменце за подпісам намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Жаўняка.

Амаль такі ж адказ за подпісам Ю.П. Бондара атрыманы ад Міністэрства культуры. У гэтым ведамстве мяркуюць, што ў краіне «створаны ўсе ўмовы для пашырэння межаў выкарыстання беларускай мовы», што законапраект «Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы» «мае вялікую колькасць канцэптуальных і змястоўных недакладнасцяў» і яго прыняцце ў Мінкульце «лічаць немэтазгодным».

На практыцы ж беларуская мова ў Беларусі ўжываецца нашмат радзей за рускую. Дзіцячых садкоў і навучальных установ, дзе вядзецца выкладанне на беларускай мове, у некалькі разоў менш, чым тых, дзе карыстаюцца рускай мовай. Сем'і, дзе дзеткі размаўляюць па-беларуску, вымушаныя аб'ядноўвацца, каб у садку з'явілася беларускамоўная група.

Паводле статыстыкі, апублікаванай на сайце Мінадукацыі, у 2016–2017 навучальным годзе ў 1–11-х класах школ Беларусі навучалася каля 967 тысяч дзяцей, з іх 128,6 тысячы (13,3%) — на беларускай мове. Па звестках на 2018 год, у Мінску было ўсяго дзесяць беларускамоўных сярэдніх навучальных устаноў.

# У Мінску пакажуць фільм пра антыфашыста Іллю Валавіка

НЧ

**Паказ дакументальнай стужкі «Партрэт беларускага антыфашыста: Ілля Валавік» адбудзецца 28 траўня.**




Ілля Валавік — антыфашыст, у сакавіку 2017 года асуджаны на 10 гадоў узмоцненага рэжыму за сутычку з нацыстамі. Ніякіх прэтэнзій і пацярпелых у яго справе не было. Пра фізічны і псіхалагічны ціск з боку сілавікоў ён абвяшчаў... Але прагучаў прысуд — 12 гадоў пазбаўлення волі.

Хто такі Ілля і чаму менавіта такія людзі, як ён, знаходзяцца за кратамі? Чаму пасіянарныя асобы не патрэбныя ў гэтай краіне?

У фільме вы знойдзеце адказы на ўсе гэтыя пытанні.

«Мы вырашылі распавесці менавіта пра асобу Іллі, сканцэнтраваліся на яго асабістых якасцях. Так, мы паразмаўлялі з яго маці, жонкай, сябрамі, трэнерам і таварышамі. Такім чынам, кожны зможа пазнаёміцца з чалавекам даволі блізка і зразумець, чаму менавіта такія пасіянарныя людзі апынаюцца за кратамі. Бо менавіта яго імкненне да барацьбы з несправядлівасцю, яго рашучасць і унутраная моц прывялі яго ў беларускую турму, бо беларускай уладзе не патрэбныя людзі, здольныя прывабліваць да сябе іншых, несці да іх каштоўнасці роўнасці і натхняць на дзеянні.

Беларускія антыфашысты вялі здаровы лад жыцця, захапляліся спортам, супрацьстаялі несправядлівасці, абараняли тых, каго іншыя спрабавалі зняважыць на глебе нейкіх прыкметаў, ладзілі паездкі ў дзіцячыя дамы, удзельнічалі ў падтрымцы зняволеных», — распавядаюць арганізатары кінапаказу.

Фільм «Партрэт беларускага антыфашыста: Ілля Валавік» пакажуць 28 траўня а 19.00 у памяшканні некамерцыйнай арганізацыі «Фаланстар» (вул. Змітрака Бядулі, 3, 2н).



# Падчас Еўрапейскіх гульняў у Мінску ахоўнікі гатэляў змогуць аглядаць гасцей

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб дадатковых мерах бяспекі на II Еўрапейскіх гульнях, якія пройдуць у Мінску з 21 па 30 чэрвеня 2019 года. Дакумент ужо набыў моц. Што зменіцца ў жыцці сталіцы?**

З 20 траўня і па 30 чэрвеня сілавікі атрымліваюць права без удзелу Міністэрства інфармацыі цягам сутак заблакаваць любы сайт, які заклікае да масавых беспарадкаў, экстрэмізму, удзелу ў масавых мерапрыемствах з парушэннем заканадаўства і іншых дзеянняў, здольных дэзарганізаваць правядзенне Еўрапейскіх гульняў. І пасля накіроўваюць рашэнне пра абмежаванне доступу ў Дзяржаўную інспекцыю па электрасувязі Міністэрства сувязі і інфарматызацыі для ўключэння сайта ў спіс абмежаванага доступу.

Звычайна абмежаваннем доступу да сайтаў займаецца Міністэрства інфармацыі. Цягам трох дзён яно перадае рашэнне аб блакіроўцы ў Дзяржаўную інспекцыю па электрасувязі. БелДІЭ ўносіць ідэнтыфікатар інтэрнэт-рэсурсу ў спіс абмежаванага доступу, пасля чаго ў правайдараў ёсць яшчэ адны суткі, каб абмежаваць доступ да сайта.

Астатнія нававядзенні будуць дзейнічаць з 17 чэрвеня па 2 ліпеня. На гэты час у Мінску забараняецца выкарыстоўваць беспілотнікі і авіямадэлі на спартыўных аб'ектах і ў іншых месцах правядзення спартыўных мерапрыемстваў, побач з гасцініцамі і ў месцах, дзе будуць размешчаныя ўдзельнікі гульняў. У тых, хто парушыць забарону, тэхніку канфіскуюць да 2 ліпеня. Выключэнне — дзяржаўная тэхніка і тэхніка, звязаная з правядзеннем Еўрапейскіх гульняў.

Указ афіцыйна робіць Еўрапейскія гульні нагодай для абмежавання руху транспарту ў Мінску. Для спынення, стаянкі і руху транспартных сродкаў, задзейнічаных у правядзенні гульняў, будуць вылучаны спецыяльныя палосы.

Супрацоўнікі МНС змогуць праводзіць пазапланавыя праверкі і маніторынгі па пажарнай бяспецы на спартыўных аб'ектах, у гасцініцах і іншых месцах размяшчэння ўдзельнікаў Еўрапейскіх гульняў і фан-зонах.

Пры неабходнасці да аховы грамадскага парадку могуць прыцягнуць вайскоўцаў. У гэтым выпадку яны змогуць прымяняць фізічную сілу, спецсродкі і зброю гэтак жа, як ваеннаслужачыя ўнутраных войскаў МУС.

Курсантаў могуць прыцягваць для аказання інфармацыйнай і арганізацыйнай дапамогі заўзятарам і іншым асобам пры правядзенні спартыўных мерапрыемстваў, цырымоній адкрыцця і закрыцця гульняў.

Ахоўнікам гасцініц і аналагічных месцаў, дзе будуць размяшчацца ўдзельнікі гульняў, дазваляецца праводзіць асабісты агляд, агляд рэчаў, дакументаў і транспарту гасцей.

**Паводле euroradio.fm**

# У смерці бабулі родныя вінавацяць амапаўцаў

**У магілёўскім пасёлку Грабянёва мясцовыя цыганы развіталіся з 67-гадовай суродзічкай Лідзіяй Юрчанкай. Хворая на анкалогію жанчына памерла праз тры дні пасля ўварвання ў яе хату ўзброеных амапаўцаў. Прычынай смерці стала адарванне тромба.**

Родзічы настойваюць, што нябожчыца не здолела перажыць стрэсу. Позна ўвечары 16 траўня ў яе хату ўварваліся амапаўцы, і яна, як магла, бараніла сваіх непаўналетніх чатырох унукаў. Дзяцей і гаспадыню паклалі тварам уніз на падлогу. У той момант у доме не было мужчын.

«Бабця прасіла, каб не палохалі дзяцей, — расказвае пра перажытае чатырнаццацігадовая ўнучка нябожчыцы. — На гэта адзін з амапаўцаў адказаў: "С...ка, закрой рот, или я тебя порву на куски". Калі мой брат папрасіў бабцю супакоіцца, каб з ёю не зрабілі нечага кепскага, то на яго амапавец накіраваў зброю і загадаў: "Закрой рот"».

Паводле дзяўчыны, яе сястра пачала задыхацца, але амапаўцы не давалі выклікаць хуткую дапамогу. Усе ў хаце плакалі. У падворку міліцыянты «ўсё перавярнулі, і дзе былі замкі, разрывалі іх». Паводле дарослых, амапаўцы ў пасёлак прыехалі на некалькіх бэтээрах.

Яны кажуць, што дзеці цяпер баяцца хадзіць у школу і з трывогаю ўспрымаюць грукат машын.

Наступныя два дні жанчына скардзілася родзічам на болі ў сэрцы. Казала, што за сваё жыццё з падобным абыходжаннем не сутыкалася. Згадвала аповеды сваёй маці пра аблавы паліцаяў падчас нацысцкай акупацыі і параўноўвала іх з перажытым цяпер. Наказвала родным, каб «яны беглі з Беларусі, бо тут ім жыцця не будзе».

«Лекары засцерагалі яе ад хваляванняў. Папярэджвалі, што аслаблены анкалогіяй арганізм можа не вытрымаць. А пасля ўварвання амапаўцаў у яе падскочыў ціск. Яго збівалі таблеткамі», — кажа ўнучка.

Нябожчыцу не вазілі ў морг, паводле цыганскіх традыцыяў рабіць ускрыццё — грэх.

Пра тое, што прычынай смерці стала адарванне тромба, яе родзічы кажуць са слоў медыкаў, якія канстатавалі смерць. Паводле іх, лекар хуткай дапамогі запэўніў, што тромб адарваўся праз стрэс. У пасведчанні аб смерці яе прычына пазначаная кодам 125.1А, што азначае «атэрасклератычная хвароба сэрца».

Анкалогію ў Лідзіі Юрчанкі выявілі 8 гадоў таму. Ускладненняў не фіксавалася, кажуць яе родныя. Памерла яна ў калідоры, седзячы на канапе.

Пахавалі жанчыну 22 траўня на грабянёўскіх могілках. Праводзіць на іх нябожчыцу прыйшоў увесь цыганскі пасёлак.

**Паводле «Радыё Свабода»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Дзядзька Сцёпа — міліцыянер»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Самай рэзананснай падзеяй мінулага тыдня стала самагубства (ці забойства) супрацоўніка магілёўскага ДАІ Яўгена Патаповіча. На наступны дзень пасля здарэння на сайце МУС з'явіўся каментар: «Супрацоўнікі органаў унутраных спраў зробяць усё, каб тыя, хто здзейсніў гэтае злачынства, паўсталі перад судом. Пакаранне павінна быць адэкватнае зробленаму».**



Фота Арцёма Лявы

Перад гэтым Патаповіч напісаў у вайбер, што яго выкралі ромы. За што і навошта — незразумела да гэтага часу. Але міліцыя пачала аблавы ў цыганскіх пасёлках, масавыя затрыманні, збіццё жыхароў. А потым міліцыя заявіла, што разглядае «версію пра суіцыд».

Па-першае, версія пра суіцыд дзіўная, таму што, паводле інфармацыі Следчага камітэта, рукі супрацоўніка ДАІ былі скаваныя кайданкамі. Па-другое, гэта вельмі нагадвае справу салдата Коржыча, які нібыта павесіўся з майкай на галаве… Можна задаваць яшчэ шмат пытанняў. Але гаворка не пра гэта.

Усе абураліся дзеяннямі міліцыянтаў, іх няздольнасцю ацаніць сітуацыю, масавымі затрыманнямі… А што вы хацелі, панове?

Ці вас не навучылі светлашумавыя гранаты ў 2006 годзе? Або брутальны разгон мітынгаў у 2010-м? Або дзеянні міліцыі ў 2017-м, падчас «недармаедскіх пратэстаў»? Або незлічоныя (можа не дзясяткі, а сотні тысяч) ілжэсведчанняў супрацоўнікаў міліцыі ў судах? Або недастаткова было «справы Барановіча», які спрабаваў адбіць звычайных людзей ад «людзей у цывільным», хоць гэтыя «цывільныя» дзейнічалі не па законе? Або недастаткова было таго, як хлопчыка прымушалі прасіць прабачэння перад статуяй гарадавога?

Незаконным дзеянням міліцыі — не адзін год. І чаму тут здзіўляцца? Мы пра аналагічныя выпадкі пісалі не адзін раз.

Зусім нядаўна я ў метро ўбачыў сцэну: бабуля гадоў 80–90 забылася, куды ёй ехаць. Са старымі такое бывае. Супрацоўнік міліцыі (не аховы метрапалітэна — менавіта міліцыянт), крычаў на яе: «Вы ведаеце, куды вам трэба? На якую станцыю?» Яна не магла гэта ўзгадаць, а ён проста на яе крычаў… «Дзядзька Сцёпа — міліцыянер» узяў бы яе за руку і праводзіў, куды ёй трэба… Але сучасны наш міліцыянт — не «дзядзька Сцёпа».

Можа, менавіта таму мы не верым міліцыі? Таму, што няма ў іх чалавечага стаўлення да нас, а, у выніку, і ў нас да іх?

Але не толькі гэтым жыве краіна. У яе мноства праблем. Не толькі нашых. Напрыклад, скандал з няякаснай нафтай з Расіі не скончыўся — толькі набірае абароты. Беларускі бок хоча яшчэ месяц для канчатковага вызначэння памеру шкоды, нанесенай у выніку паставак няякаснай нафты з Расіі, сказаў журналістам прэм'ер-міністр Сяргей Румас. Раней папярэднія лічбы былі агучаныя — каля 100 мільёнаў долараў. Але Румас — вялікі аптыміст. Бо паводле інфармацыі расійскага боку — усё наогул толькі пачынаецца. Прыкладам, Расія і Польшча абмяркоўваюць спосабы і

**Бабуля гадоў 80–90 забылася, куды ёй ехаць. Са старымі такое бывае. Супрацоўнік міліцыі крычаў на яе: «Вы ведаеце, куды вам трэба? На якую станцыю?» Яна не магла гэта ўзгадаць, а ён на яе крычаў...**

ўмовы ачысткі нафтаправода «Дружба» ад некандыцыйнай нафты, паведаміў журналістам віцэ-прэм'ер Расіі Дзмітрый Козак.

«З польскімі калегамі не атрымалася дамовіцца канчаткова па спосабах і ўмовах вызвалення нафтаправода ад некандыцыйнай нафты», — сказаў Козак, адзначыўшы, што ў гэтым пытанні вельмі шмат розных пытанняў.

«Нашы польскія партнёры папрасілі даць ім усе канчатковыя ўмовы на будучыню. Калі мы з усімі іншымі краінамі — Славакіяй, Венгрыяй, Беларуссю, Украінай — дамовіліся, што вырашаем тэхнічныя пытанні, фізічнае вызваленне нафтаправода ад некандыцыйнай нафты, то польскія калегі, нягледзячы на тое, што спачатку быў такі ж канструктыўны дыялог, раптам нечакана захацелі даведацца, якая зніжка будзе на гэтую нафту, і гэтак далей. Таму адбудуцца дадатковыя перамовы», — растлумачыў віцэ-прэм'ер.

Бакі дыскутуюць і пра тое, які аб'ём некандыцыйнай нафты Польшча павінна «выдаліць» з нафтаправода ў свае сховішчы, адзначыў Козак. Што да Беларусі, то раней паведамлялася: у нашых сховішчах каля мільёна тон «забруджанай» нафты.

«Пакуль яшчэ ідзе дыялог. У канцы красавіка дамовіліся, што кожная краіна возьме на сябе столькі нафты, колькі неабходна, каб вызваліць трубу. Але на сёння паўсталі пытанні па цане», — сказаў ён. «Гэта натуральныя пытанні, мы не драматызуем гэтую гісторыю. Я думаю, што мы знойдзем адпаведнае рашэнне. У канчатковым выніку ўся Усходняя Еўропа і Заходняя Еўропа зацікаўлены ў тым, каб нафтаправод як мага хутчэй вызваліўся», — сказаў на заканчэнне расійскі віцэ-прэм'ер.

Я не спецыяліст у нафтавай галіне, але проста падумаем. Пра тое, каб «вызваліць трубу» ад няякаснай нафты дамовіліся «ў канцы красавіка». Перамовы працягваюцца. Значыць, няякасная нафта яшчэ ў трубе? Калі вырашаюцца «пытанні спосабу фізічнага вызвалення нафтаправода ад некандыцыйнай нафты», значыць, яна ўсё яшчэ там? А мы губляем грошы?

Праблема гэта сур'ёзная. Настолькі, што, па паведамленнях ТАСС, Масква ўспомніла пра доўг Беларусі за «растваральнікі». Як піша інфармагенцтва, прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў абмяркуе ў пятніцу ў Маскве з тым жа Румасам пытанні супрацоўніцтва, у ліку якіх будуць і тэмы запазычанасці Мінска перад Масквой ад рэалізацыі схемы з «растваральнікамі», а таксама праблемы вакол бруднай нафты ў «Дружбе».

Праблема з «растваральнікамі» датаваная 2010–2012 гадамі. Хімічная прадукцыя («растваральнікі і разбавіцелі складаныя арганічныя» і «змазачныя матэрыялы») не траплялa ў разрад нафтапрадуктаў, у выніку расійскі бюджэт недаатрымліваў экспартныя пошлін.

Раней не зважалі на гэта, і дамову пра ЕАЭС падпісалі. Настолькі ўсё сур'ёзна?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алесь Бяляцкі



**Праваабаронца накіраваў у Генеральную пракуратуру заяву з просьбай правесці праверку законнасці затрыманняў цыганаў 16 траўня ў Магілёве.**

Са шматлікіх паведамленняў у шэрагу СМІ стала вядома, што 16 траўня 2019 года ў Магілёве ў выніку рэйда праваахоўных органаў, які праводзіўся ў межах расследавання крымінальнай справы па факце меркаванага забойства супрацоўніка ДАІ Патаповіча, адбываліся масавыя затрыманні цыганаў.

Агулам у ходзе гэтага рэйду прадстаўнікамі органаў МУС у месцах кампактнага пражывання прадстаўнікоў дадзенай нацыянальнасці было затрымана каля 100 чалавек: жанчын, непаўнагадовых дзяцей і мужчын. Частку з іх пазней вызвалілі, а мужчыны, у колькасці каля 50-ці чалавек, былі затрыманыя на трое сутак. Як стала вядома пазней, у адносінах да затрыманых былі распачатыя адміністрацыйныя працэсы за нібыта здзейсненае імі дробнае хуліганства.

«Відавочна, паколькі законныя падставы для затрыманняў грамадзян у органаў следства адсутнічалі, кімсьці было прынятае рашэнне аб затрыманні ў сувязі з нібыта здзяйсненнем адміністратыўных правапарушэнняў, а менавіта дробнага хуліганства. Гэта дало магчымасць органам следства ўтрымліваць затрыманых у якасці асобаў, у дачыненні да якіх распачаты адміністрацыйны працэс, да трох сутак і дапытваць у межах распачатай крымінальнай справы з парушэннем прававых гарантый і працэдур, прадугледжаных дзеючым КПК Рэспублікі Беларусь», — піша праваабаронца.

Алесь Бяляцкі адзначае, што ўсе затрыманні адбываліся выключна па нацыянальнай прыкмеце.

## Вольга Нікалайчык



**Актывістку чакае суд за... ушанаванне памяці ахвяр Другой сусветнай вайны!**

Вольга Нікалайчык атрымала пратакол па артыкуле 23.34 КаАП за ўдзел у акцыі ўшанавання памяці герояў і ахвяр Другой сусветнай вайны, якая прайшла восьмага траўня на Вайсковых могілках у Мінску.

У пратаколе, які склаў старшы інспектар Савецкага РУУС Віталь Тарлюк, напісана, што актывістка парушыла парадак правядзення мітынгу, бо з'явілася ўдзельніцай збору на Вайсковых могілках каля помніка савецкім салдатам без адпаведнага дазволу Мінгарвыканкаму. Паводле пратакола, Нікалайчык «публічна выказвала сваё стаўленне і грамадска-палітычны настрой да святкавання Дня Перамогі, пры гэтым трымала ў руках бел-чырвона-белы сцяг».

Сама актывістка кажа, што ўдзельнічала ў акцыі, каб ушанаваць памяць свайго дзеда, які загінуў падчас Другой сусветнай вайны.

## Ігар Пасноў




**Віцебскага «лекара-праўдаруба» Ігара Паснова прызналі вінаватым у паклёпе на пракурора Юрыя Раманоўскага і асудзілі на тры гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу.**

Пасяджэнні выязнога суда Бешанковіцкага раёна адбываліся ў Віцебску і праходзілі ў закрытым рэжыме. Прысуд пакуль не набыў законнай сілы і можа быць абскарджаны.

Ігар Пасноў абвінавачаў пракурора Віцебска Юрыя Раманоўскага ў цяжкім злачынстве: што ён, карыстаючыся службовай уладай, заступіўся за сяброўку сваёй жонкі, на якую была заведзена крымінальная справа, а пазней спрыяў яе незаконнаму вызваленню. Заява была разасланая па больш чым 20 адрасах (у тым ліку ў Amnesty International, у амбасады Вялікабрытаніі, Латвіі, Чэхіі) і ў той жа дзень апублікаваная на старонках Ігара Паснова ў сацсетках Facebook і «ВКонтакте».

Пасноў вядомы сваімі шматлікімі выступамі ў інтэрнэце з крытыкай мясцовых уладаў і стану медычных установаў Віцебшчыны. Праваабарончая арганізацыя Amnesty International заявіла пра гатоўнасць прызнаць Паснова вязнем сумлення.

а | Азбука паліталогіі

# Беларуская цытадэль

**Парада аўтсайдарам: калі ты не здольны дагнаць лідара, абвясці, што ён рухаецца ў няправільным кірунку.**



Сяргей НІКАЛЮК




Прызнаюся, я з вялікім спазненнем прачытаў артыкул доктара гістарычных навук Ігара Марзалюка «А хто там ідзе?». Артыкул быў апублікаваны ў «Советской Белоруссии» 21 чэрвеня 2014 года — за пяць гадоў шмат вады сплыло. У прыватнасці, змянілася афіцыйная назва «самай саліднай» газеты краіны — у адпаведнасці з духам часу, прыметнік «савецкая» сціснуўся да адной літары. Але пратэстаў у чытачоў са стажам гэта не выклікала. Магчыма таму, што змена назвы ніяк не адбілася на змесце газеты.

За пяць гадоў адбыліся змены і ў жыцці аўтара артыкула. З крэсла сенатара ён перамясціўся ў крэсла дэпутата ПП НС. Мне цяжка сказаць, з якім знакам, з пункту гледжання кар'еры, ацэньваць такое перамяшчэнне. Аднак спадзяюся, што даходы прафесійнага гісторыка ад гэтага не пацярпелі. Але лічыць чужыя прыбыткі — справа няўдзячная.

Артыкул Марзалюка — чарговая спроба знайсці нацыянальную ідэю, якую з 2003 года беспаспяхова шукае адзіны беларускі палітык (АП).

Насуперак традыцыі, якая склалася ў Беларусі, доктар гістарычных навук у сваім пошуку ідзе не «ад жыцця». Праблему ён фармулюе акадэмічна строга: «Любая нацыянальная ідэя — гэта адказ на тры фундаментальныя для любога народа пытанні: адкуль мы? хто мы? куды мы ідзем?»

Адразу павінен патлумачыць, што з адказамі прафесійнага гісторыка на два першыя пытання я азнаёміўся з вялікай цікавасцю, чаго жадаю і ўсім чытачам «НЧ». Ні запярэчыць, ні дадаць мне няма чаго, таму засяроджуся на трэцім пытанні.

### Альфа і амега нацыянальнай ідэі

Беларусь, на думку аўтара артыкула ў «Советской Белоруссии», паўстала на цывілізацыйным разломе праваслаўнага Усходу і каталіцкага Захаду. Пагодзімся і пойдзем далей: «Парадаксальна, але факт — постсавецкая Беларусь сёння з'яўляецца носьбітам і захавальнікам базавых традыцыйных хрысціянскіх каштоўнасцяў еўрапейскай цывілізацыі ва ўсіх трох яе разнавіднасцях — праваслаўнай, каталіцкай і пратэстанцкай. Больш за тое — беларуская дзяржава іх беражліва захоўвае і культывуе, у той час як у новай Еўропе пад выглядам гендарнай роўнасці і культурнай разнастайнасці насаджаецца і культывуецца антыхрысціянскі светапогляд, які супярэчыць базавым каштоўнасцям і традыцыям еўрапейскай цывілізацыі, — адбываецца прапаганда гомасексуалізму, легалізацыя аднаполых шлюбаў, прафануецца інстытут традыцыйнай сям'і».

Безумоўна, хрысціянскія каштоўнасці ляжаць у аснове еўрапейскай цывілізацыі. Але на змену Сярэднявеччу прыйшоў Новы час са сваім наборам каштоўнасцяў. Яны не супярэчылі хрысціянскім, яны іх дапаўнялі. У выніку паміж двума ментальнымі полюсамі сярэднявечнага чалавека (Богам і д'яблам) сфарміраваўся трэці полюс — сам чалавек. Паступова трэці полюс узвысіўся над сваімі папярэднікамі, што і зрабіла магчымым пераход ад сярэднявечнай статыкі да дынамікі Новага часу.

Згодна з англійскім эканамістам Ангусам Медысанам, у 1800 годзе ВУП на душу насельніцтва ў Еўропе не перавышаў аналагічны паказчык у Рымскай імперыі ў перыяд яе росквіту. Такім чынам, сучаснаму эканамічнаму росту — не больш за два стагоддзі. Сучасны эканамічны рост — гэта рост інавацыйны. Для яго патрабуецца прынцыпова іншы сацыякультурны тып чалавека. Імя яму — асоба.

Асоба, якая вызвалілася ад путаў традыцыі, пераўтварыла свет. Асоба не хаваецца ад пераменаў. Яны для яе — натуральнае асяроддзе існавання. Больш за тое, яна сама іх творца, і для гэтага не мае патрэбы ва ўказаннях зверху.

**Што да Захаду з прылепленай да яго характарыстыкай «загніваючы», то «там тэхналогіі, там свабодныя інвестыцыі» (АП). Вось толькі ўзровень складанасці заходніх тэхналогій сёння такі, што носьбіты традыцыйных каштоўнасцяў ужо не здольныя іх засвоіць**

Каб падвесці рысу пад характарыстыкай асобы, я прывяду цытату з кнігі расійскіх культуролагаў Андрэя Пеліпенкі і Ігара Якавенкі «Культура як сістэма»: «Пералічваючы найбольш значныя рысы асобы, варта вылучыць яе максімальную аўтаномнасць, самадастатковасць і пастаянную арыентаванасць на здзяйсненне выбару».

Зразумела, што чалавек з такімі характарыстыкамі ўяўляе смяротную пагрозу для «беларускай мадэлі» і яе архітэктараў. Адсюль імкненне павязаць самадастатковую асобу традыцыямі, што раўназначна вяртанню да Сярэднявечча. Вось як такое вяртанне спрабуе абгрунтаваць Марзалюк: «Беларусь сёння — цытадэль еўрапейскай традыцыйнай культуры і маралі. Менавіта таму ідэі беларускага кансерватызму, апора на традыцыйныя хрысціянскія каштоўнасці павінны стаць альфай і амегай беларускай нацыянальнай ідэі».

Носьбіт традыцыйных каштоўнасцяў сёння, як і на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва, арганічна няздольны фарміраваць (выбіраць) асабістую жыццёвую стратэгію. Для яго гэта павінен зрабіць хтосьці іншы: вялікі правадыр, манарх, культурны герой, рэлігійны аўтарытэт або, урэшце, безаблічная традыцыя.

Разумеючы непазбежнасць пераменаў, носьбіт традыцыйных каштоўнасцяў выступае за эвалюцыйныя (паступовыя) змены. Ён панічна баіцца рэвалюцый, што не перашкаджае яму перыядычна прымаць валюнтарысцкія рашэнні «імем рэвалюцыі».

### Гомасексуалісты не пройдуць

Якімі ведамі пра заходнюю цывілізацыю падзяліўся са сваімі чытачамі доктар гістарычных навук? Мяркуючы па прыведзенай вышэй цытаце, яму вядома пра яе няшмат, а канкрэтна толькі тое, што ў новай Еўропе «адбываецца прапаганда гомасексуалізму, легалізацыя аднаполых шлюбаў, прафануецца інстытут традыцыйнай сям'і».

Ці варта беларусам імкнуцца ў такую Еўропу? Адказ відавочны. Вось толькі незразумела, чаму на мяжы з Польшчай і Літвой рэгулярна выстройваюцца чэргі з фураў, аўтобусаў і легкавых аўтамабіляў з беларускімі і расійскімі нумарамі? Няўжо ў краінах — захавальніцах хрысціянскіх каштоўнасцяў сфарміраваўся масавы попыт на вывучэнне гомасексуальнага досведу? Цікава, нашы еўрапейскія суседзі дзеляцца ім бясплатна або за яго трэба плаціць? Калі другое, дык колькі, і ці прадугледжаны зніжкі для пенсіянераў?

Я ляжу на канапе і пішу гэты артыкул. Па правую руку ад мяне варкоча кот, на жываце не менш прыемныя гукі выдае ноўтбук. Мяркуючы па марцы (Acer), выраблены ён не ў Беларусі, і нават не ў Расіі. Гуглю: «Acer — тайваньская кампанія па вытворчасці камп'ютарнай тэхнікі і электронікі. Кампанія займае 487 месца ў Fortune Global 500».

Спадзяюся, працавітыя кітайцы яшчэ не паспелі заразіцца бацыламі еўрапейскай культуры, што дазваляе ім перамагаць «ворагаў традыцыйнай палавой ідэнтычнасці чалавецтва».

Кампутары сёння збіраюць кітайцы, нават тыя, на якіх стаяць лэйблы амерыканскіх кампаній. Але самі кампутары, як і іх галоўны элемент — транзістар, вынайшлі амерыканцы. Няўжо паміж схільнасцю да гомасексуалізму і здольнасцю вынаходзіць існуе сувязь?

Вы будзеце здзіўленыя, але такая сувязь існуе. Зразумела, не прамая. Не варта думаць, што ў гомасексуалістаў каэфіцыент інтэлекту (IQ) вышэйшы, чым у людзей з традыцыйнай палавой арыентацыяй. Усё значна прасцей. Адсутнасць ганенняў на гомасексуалістаў — дакладная прыкмета адсутнасці ганенняў на іншадумцаў. А там, дзе мае права на існаванне толькі адна праўда, — ні пра якое развіццё не можа быць і гаворкі.

### Эстэтыка ўніформы

Але менавіта за такую стэрыльнасць і выступае дэпутат ПП НС. У інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» беларускага тэлебачання ён паведаміў, што разам з калегамі-гісторыкамі працуе над дапаможнікам для вышэйшай школы, у якім не будзе людзей, што падзяляюць нацыю. «Разумееце, — растлумачыў Марзалюк, — ёсць фігуры неадназначныя, якія памнажаюць лініі разлому, ёсць фігуры, якія могуць быць культавымі для нейкай субкультуры...»

Ачысціць не толькі гісторыю, але і сучаснасць ад неадназначных фігур — мара любога аўтарытарнага палітыка. Няздольныя ўзаемадзейнічаць з самадастатковымі асобамі, такія персанажы заўсёды і ва ўсім імкнуцца да максімальнага спрашчэння. Яны адчуваюць эстэтычны аргазм ад аднаго толькі выгляду апранутых ва ўніформу людзей, якія маршыруюць на пляцы.

Вынікам такой эстэтыкі стала тэхналагічная адставанне ад «загніваючага» Захаду. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што ленінскі лозунг «Дагнаць і перагнаць» страціў сваю актуальнасць яшчэ ў часы «дарагога Леаніда Ільіча».

Гэта ў выступе перад дэпутатамі парламентаў Венесуэлы і Судана можна разважаць пра здольнасць беларускіх прадпрыемстваў паспяхова канкураваць на сусветных рынках з лепшымі замежнымі таваравытворцамі. Калі слухаеш падобныя развагі, міжволі ўспамінаеш гісторыю пра касмічныя караблі, якія баразняць абшары Вялікага тэатра.

Што да Захаду з прылепленай да яго характарыстыкай «загніваючы», то «там тэхналогіі, там свабодныя інвестыцыі» (АП). Вось толькі ўзровень складанасці заходніх тэхналогій сёння такі, што носьбіты традыцыйных каштоўнасцяў ужо не здольныя іх засвоіць.

Беларусь Эканамічная

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



# Аграрны тупік

Ігар КАРНЕЙ

**Улады Беларусі не спыняюць спробаў уратаваць стратны аграрны сектар, прыдумляючы ўсё новыя спосабы вырашэння дылемы: як зменшыць бюджэтныя выдаткі і пры гэтым спусціць на тармазах галоўнае пытанне — аб прыватнай уласнасці на зямлю?**

Паводле афіцыйнай статыстыкі, на аграпрамысловы комплекс прыпадае 35% пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці і блізу 20% нявыплачаных крэдытаў. У спісе стратных прадпрыемстваў — звыш 800 сельскагаспадарчых арганізацый, што складае 60% ад справаздачнай колькасці.

## Ілюзія аздараўлення

Летась Лукашэнка падпісаў указ №399 «Аб фінансавым аздараўленні сельскагаспадарчых арганізацый». Дакумент прадугледжвае «прагрэсіўнае кіраванне» дзеля аздараўлення неплатаздольных арганізацый:

— Забаронена банкруціць неплатаздольныя сяльгасарганізацыі праз суд, спыняюцца ўжо распачатыя працэдуры банкруцтва. Старшыні райвыканкамаў атрымліваюць паўнамоцтвы на іх аздараўленне.

— Нельга звальняць работнікаў без паважнай прычыны. У арганізацыі, якую перадаюць у арэнду або даверчае кіраванне, ім гарантуецца права застацца на працы на ранейшых умовах.

— Заключэнне пагадненняў з крэдыторамі аб зменах ва ўмовах пазычання, адтэрміноўку абавязанняў на 3 гады і растэрміноўку на 5 гадоў, зніжэнне стаўкі па крэдытах на 1,5% гадавых.

— Кіраўнік краіны можа аднаасобна пераводзіць запазычанасць у іншых: з неплатаздольных арганізацый праз выпуск выканкамамі каштоўных папераў — на мясцовыя ўлады або Агенцтва кіравання актывамі.

— Да чвэрці акцыяў дазволена падарыць кіраўнікам арганізацый ці бясплатна перадаць па выніках рэалізацыі бізнес-плану паводле прэзідэнцкага рашэння (не больш за 25,01% статутнага фонду).

— Маёмасны комплекс неплатаздольных прадпрыемстваў можна здаваць у арэнду без дзяржаўнай рэгістрацыі і без дакументаў аб правах на нерухомасць, аддаваць зямлю ў карыстанне без аўкцыёнаў.

Але выглядае, што прыпарка напаўмёртваму пацыенту не дапамагла. Прынамсі, такую выснову можна зрабіць пасля рэзанансных інспекцый Лукашэнкі адносна моцных гаспадарак, а таксама сыходзячы са статыстыкі — стратных арганізацый меней не стала.

## Посткалгасная сістэма

У савецкай Беларусі калектыўных гаспадарак было каля 2000. Цяпер іх фармальна няма — на досвітку незалежнасці былі рэфармаваныя ў сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы. Колішнія калгасы і саўгасы атрымалі некалькі арганізацыйна-прававых формаў: СВК (сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў), ААТ (адкрытае акцыянернае таварыства), ЗАТ (закрытае акцыянернае таварыства), сялянская (фермерская) гаспадарка.

Дык якія арганізацыі трапілі пад «аздараўленне»? Самымі шматлікімі былі СВК — спадкаемцы савецкіх калгасаў. У канцы 2000-х гадоў такіх налічвалася больш за 1100. Іх меліся рэарганізаваць у акцыянерныя таварыствы яшчэ ў 2014 годзе, форма юрыдычнай асобы павінна была вызначацца рашэннем агульнага сходу «калгаснікаў», а долі ў статутным фондзе (акцыі) планавалася размяркоўваць паміж фізічнымі асобамі, якія выкажуць пісьмовую згоду выступіць заснавальнікамі таварыства.

Да прызначанай даты рэалізаваць задуму не ўдалося. У 2017-м быў апошні тэрмін пераходу ў акцыянерныя таварыствы і камунальныя ўнітарныя прадпрыемствы, але шмат дзе і сёння засталіся старыя шыльды. Доля дзяржавы ў гэтых ААТ і ЗАТ — дамінуючая. Таму кіраўнікоў не выбірае агульны сход, а прызначае раённая вертыкаль. Паводле кандыдата эканамічных навук Пятра Мігурскага, які доўгі час працаваў старшынёй калгасаў на Гомельшчыне і Магілёўшчыне, а потым стаў фермерам, арганізацыйна-прававыя формы, якія прыйшлі на змену калгасам, ёсць звычайнай фікцыяй.

«Рапартуюць, што расце прадукцыйнасць працы. А хто палічыў эфектыўнасць, хто палічыў, колькі на рубель прадукцыі трэба ўкласці сродкаў, якія з кожным годам растуць! Сёння прыкладна 9% бюджэту ідзе на падтрымку сельскагаспадарчай вытворчасці. Я ўжо не кажу пра прыпіскі, якія забяспечваюць так званую эфектыўнасць. Такая сельская гаспадарка перспектыў не мае!» — кажа адмысловец.

Калі распачалося акцыянаванне СВК, у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання запэўнівалі, што гэта дазволіць стварыць зразумелую схему ўкладання сродкаў шляхам выпуску акцый на суму інвестыцый альбо іх продажу. Пры гэтым узнікла пытанне аб памеры дзяржаўнай долі ў статутным фондзе акцыянернага таварыства. Механізм удзелу дзяржавы мае рэкамендацыйны характар, але, напрыклад, у Мінскай вобласці практычна ўсе ААТ, што з'явіліся на грунце СВК, былі ўтвораныя з дамінаваннем дзяржавы — каля 90% статутнага фонду.

Даследаванні сведчаць, што фермерскія гаспадаркі на 40% больш эфектыўныя за буйнатаварныя гаспадарчыя прадпрыемствы. Што якраз і дэманструюць асобныя прыватныя вытворчасці — напрыклад, магілёўскае прыватнае прадпрыемства «Серва-люкс», якое перакрочыла адзнаку ў 50 працэнтаў на беларускім рынку птушкагадоўлі. Зрэшты, у кожнай вобласці ёсць годны прыклад прыватнай сяльгасвытворчасці, аднак улады ўпарта бяруць за ўзор СВК — маўляў, сельская гаспадарка без падтрымкі ляснецца.

Доктар сельскагаспадарчых навук, шматгадовы дырэктар Інстытута земляробства і селекцыі Нацыянальнай акадэміі навук Міхаіл Кадыраў перакананы: шукаць цудадзейныя рэцэпты ўратавання сельскай гаспадаркі на старым грунце бессэнсоўна.

«Трэба, каб працаўнік быў калі не ўласнікам усяго, што ёсць у гаспадарцы, але хоць бы гаспадаром выніку сваёй працы, каб за гэта было атрымана заслужанае ўзнагароджанне, — кажа эксперт. — Пакуль жа вынікі ягоных высілкаў належаць дзяржаве ў асобах абласных, раённых, «калгасных» кіраўнікоў. Распачалі нібыта акцыянаванне, дык кантрольны пакет усё роўна належыць райвыканкаму — зноў жа, дзяржаве. Па сутнасці нічога не мяняецца: якімі б шыльдамі чарговы раз ні прыкрываліся, застаецца савецкая сістэма ў закансерваваным выглядзе».

## Горкі досвед

Раней ужо былі спробы аздаравіць аграрную галіну. У 2004 годзе з'явіўся ўказ № 138 «Аб прыцягненні інвестыцый у сельскагаспадарчую вытворчасць». Чым гэта скончылася, можна бачыць на прыкладзе мінскага прадпрымальніка Міхаіла Шурыма, які ўклаў мільёны долараў у «калгас» на Мядзельшчыне, а ў выніку ўсё страціў.

«У чым быў сэнс 138-га ўказу? З дапамогай прыватнага капіталу дапамагчы сялянам. Але нават з майго досведу бачна: райвыканкамам гэта не патрэбна, мы для іх — бяльмо на воку. Вынішчылі практычна ўсіх уласнікаў, якія набылі «калгасы», — амаль нікога з тых 200 чалавек не засталося. Нават за тое, што не выконвалі разнарадкі, колькі пасеяць азімых ці пасадзіць бульбы», — канстатуе нерэалізаваны аграпрамысловец.

Паквапіўшыся на абяцаныя дывідэнды, бізнесовец, які дагэтуль займаўся пракладаннем цепласетак, стаў уладальнікам вытворчага кааператыву «Вішнеўскае». Юрыдычная асоба атрымала статус прыватнага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства «Малочна-таварная ферма «Сырмеж».

Згодна з дамовай куплі-продажу, прадугледжвалася зніжка: цана вызначалася ў памеры 20% ад кошту чыстых актываў. Прыкладна 100 тысяч долараў у эквіваленце — не так шмат за 3,5 тысячы гектараў з пашай, гаспадарчымі пабудовамі, машынна-трактарным паркам ды пагалоўем жывёлы. Каб не адзін нюанс: на кааператыве віселі даўгі, сума якіх у 10 разоў перавышала кантрактную.

З дапамогай каманды адмыслоўцаў абноўленая гаспадарка вылезла з даўгавой ямы і пачала станавіцца на ногі. Да 2012 года ў «Сырмеж» было ўкладзена прыкладна 3 мільёны долараў уласных сродкаў — на даўгі, паліва, кармы, угнаенні, заробкі.

Але ў выніку адміністрацыйны рэсурс паказаў сваю моц. У гаспадарку прыехала каманда кантралёраў, якія зафіксавалі расколіны ў стольным перакрыцці на ферме ў вёсцы Астраўляны: пабудова, як і ўсё іншае, засталася прадпрымальніку ў спадчыну ад папярэдніх уласнікаў.

Не чакаючы вынікаў дзяржаўнай экспертызы і права на судовае абскарджанне, Мядзельскі райвыканкам стварыў камісію для перадачы на «часовае захоўванне» буйной рагатай жывёлы на ААТ «Мядзелаграсэрвіс». Партыямі рознай колькасці ў іншыя гаспадаркі былі забраныя 767 галоў дарослай жывёлы і маладняку.

Атрымаўшы ўдар пад дых, Міхаіл Шурым не стаў адкладаць пасяўную кампанію — за свае грошы пасеяў кукурузу. Аднак напярэдадні ўборкі райвыканкам загадаў кіраўніку суседняга «калгасу» зжаць поле Шурыма — увесь ураджай на 50 гектарах пайшоў у чужую кішэню. А на хвалі змагання з афрыканскай чумой «Сырмеж» абавязалі знішчыць усіх свіней…

Шурым з досведу працы ў сельскай гаспадарцы вынес цвёрдае перакананне: пакуль улада будзе ўмешвацца ў справы арганізацый, патугі касметычных рэформаў не зменяць сітуацыі.



Фота www.radiobrest.by

# «У прыватніку не бачаць

Павел КІРЫЛАЎ

**У 2000-х гадах Мікалай Лысянкоў стаў адным з самых маладых старшыняў «калгасаў» у Беларусі (у 26 гадоў), а ў хуткім часе быў прызнаны лепшым кіраўніком сельскагаспадарчага прадпрыемства ў сваім Стаўбцоўскім раёне. Прапановы ачоліць сяльгаспрадпрыемства рэгулярна паступаюць і цяпер. Але ён адмаўляецца, хоць душа ляжыць да гэтай працы.**




Чытачам «Новага Часу» Мікалай Лысянкоў распавёў пра тое, чаму не хоча вяртацца ў «калгасы», колькі зарабляюць іх старшыні і якія выгады маюць. Што адбываецца са славутай працавітасцю беларусаў і чаму фермерам выдзяляюць няўдобіцы, а Лукашэнка баіцца даваць грошы прыватнікам у галіне сельскай гаспадаркі.

## «Прыехаў смаркач камандаваць»

— Пасля заканчэння БДАТУ (Беларускага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэта) я ўладкаваўся ў сельгаспрадпрыемства эканамістам і прапрацаваў на гэтай пасадзе больш за тры гады. Затым мяне перавялі ў райвыканкам — быў намеснікам начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі. Але гэта не па мне. Таму папрасіўся ў старшыні райвыканкаму назад у «калгас». Той прапанаваў пасаду старшыні. Мне было 26 гадоў. Эканамістам я працаваў у дастаткова багатым прадпрыемстве, вопыту набраўся, а далі мне адну з самых бедных гаспадарак у раёне. Маўляў, давай падымай!

***— Гэта такая распаўсюджаная практыка ў нашай краіне — накіроўваць маладых у занядбаныя гаспадаркі?***

— Папросту вопытны кіраўнік, які пабыў старшынёй у розных раёнах па некалькі разоў, а цякучка гэтых кадраў немалая, разважае так: «Навошта мне гэтыя праблемы? Тым болей ад мяне нічога не залежыць — усё адно праз нейкі час здымуць і кудысьці прызначаць!» Я пагадзіўся яшчэ і таму, што добра ведаў прапанаванае мне сельгаспрадпрыемства, бо курыраваў яго падчас тых пасяўных, калі працаваў у райвыканкаме, і ездзіў туды не раз.

***— Як паставіўся да вас, маладога прызначанага старшыні, тамтэйшы працоўны народ?***

— Ну, мяне самі людзі выбіралі. Так паводле статуту сельскагаспадарчага вытворчага кааператыву павінна было быць. Фармальна выбіралі, зразумела. Кандыдатуру маю прыехаў і запрапанаваў старшыня райвыканкаму. Бо ясна, што кіруе, у тым ліку кадрамі, той, хто распараджаецца фінансаваннем.

Першыя паўгода, канечне, людзі ставіліся часта з пагардай: «От, прыехаў нейкі смаркач камандаваць!»

Даводзілася доказваць прафпрыдатнасць уласным прыкладам — галавой і ў прамым сэнсе рукамі. Вось зваршчык кажа, напрыклад, што не можа зрабіць нейкую працу. А я ў дзяцінстве машыны варыў — то бяру зварачны апарат і прыварваю. Пасля гэтага ён ужо да мяне з такімі пытаннямі ці скаргамі не звяртаецца. Падчас уборачнай шуфляваў зерне апоўначы на току разам з усімі.

Да старшыняў «калгасаў» людзі ставяцца так, як тыя ставяцца да справы. Калі кіраўнік мае ўменні і працуе, а не глядзіць на працоўны люд праз вакно свайго джыпа, то такога старшыню паважаюць. Ёсць, прыкладам, на Стаўбцоўшчыне Вольга Аляксееўна Луцык, дырэктар ААТ "Вялікі Двор", якая даўным-даўно на пенсіі, але як належыць дбае пра гаспадарку і ведае не тое што кожную даярку — кожную карову там! А ёсць такія начальнікі, што думаюць, што на гэтай пасадзе Бога за бараду схапілі, і ім бы новы джып сабе набыць, а не новы трактар!

***— Апрача джыпа і кіроўцы пры сабе, якія выгады мае старшыня «калгасу»? Усё ж гэта адзін з галоўных начальнікаў на сяле.***

— Перадусім, гэта хіба статус — што ты старшыня, дырэктар, а не просты рабочы. Так, даецца службовы аўтамабіль з кіроўцам, але ж па прыватных справах надта не пакатаешся. Цешчу на вёску не павязеш, бо завядуць артыкул. Жыллём забяспечваюць, але жылля хапае, ім забяспечваюць усіх працаўнікоў. Красці? Лепей зарабіць. Ну што красці па дробязі — два яблыкі? А скрадзеш фуру — сядзеш за краты. Гэта многія разумеюць. Выпадкі, калі трапляюцца на гэтым, не носяць масавага характару. Я дасюль камунікую з кіраўнікамі сельскагаспадарчых арганізацыяў. І не скажу, што гэта вельмі заможныя людзі.

***— А які заробак у старшыні?***

— Гэта не надта вялікія грошы, як нехта можа падумаць. Тысячу рублёў зарабляюць. У паспяховых арганізацыях і болей, калі маюць магчымасць дзяліць прыбытак паміж працаўнікамі. А нядаўна вось у адно сельгаспрадпрыемства ў Брэсцкай вобласці шукалі годнага кіраўніка, абяцаючы зарплату 2000 рублёў.

## «Калгасы» і фермеры: дзяржава няроўна дзеліць

***— Мікалай, а чаму вы пакінулі гэтую пасаду?***

— Таму, чаму і цяпер не прымаю прапановы, якія паступаюць, узначаліць тую альбо іншую гаспадарку. Я не згодны з тым, як функцыянуе сістэма, не згодны з каманднай эканомікай агулам.

Калі я стаў старшынёй гаспадаркі, то атрымаў заданне па валавой прадукцыі і каб быў парадак на зямлі. Але выраб валавой прадукцыі і эканоміка — гэта розныя рэчы. У нас жа галоўнае — вал, то бок вырасціць вось столькі і столькі бульбы, буракоў, збожжа. А можа гаспадарцы больш выгадна ўсё травамі засеяць, трымаць не свіней, а буйную рагатую жывёлу? Хачу я бычкоў разводзіць, але не — у раёне ёсць буйны жывёлагадоўчы комплекс, а таму ты мусіш практычна па разнарадцы здаць туды гэтых бычкоў.

Я бачыў, як размяркоўваюцца бюджэтныя грошы, куды ідуць субсідыі. Як правіла, перадусім на падтрыманне бедных гаспадарак. І іх кіраўнікам не трэба асабліва ламаць галаву наконт таго, дзе ўзяць грошы на заробкі. Я спрабаваў усе грошы накіроўваць у развіццё свайго СВК: рамантавалі пабудовы і закуплялі новую тэхніку. Своечасовая выплата заробкаў была на адмысловым кантролі чыноўнікаў, таму, калі пры канцы месяца на іх грошай не хапала, то абавязкова дапамагалі з бюджэту.

У выніку на наступны год майго старшынавання мы далі рост па валавой прадукцыі ажно 42%! І быў прызнаны — гэта быў 2007 год — лепшым кіраўніком сяльгасарганізацыі ў Стаўбцоўскім раёне. 42% — гэта прыгожая гучная лічба. Але ў бедным «калгасе» выйсці на яе нашмат прасцей, чым у паспяховым даць рост, скажам, на 5–10%. Бо яго субсідуюць мізэр — і сам жа трымаецца на плыву. Як, напрыклад, на Стаўбцоўшчыне адкрытыя акцыянерныя таварыствы «Вішнявецкі-Агра», «Вялікі Двор», «Аграпёманскае».

Я лічу, што грошы трэба ўкладаць туды, дзе будзе большая аддача!

А фермераў зусім не субсідуюць, хаця, паводле Канстытуцыі, у нас роўныя ўсе формы ўласнасці. Ім і землі даюць самыя горшыя, няўдобіцы, дзе нават мох часам не расце. Лепшыя абшары — у багатых «калгасаў».

***— Якая, на ваш погляд, падтрымка з боку дзяржавы сельскай гаспадаркі была б слушнай?***

— Субсідыі варта выдзяляць, напрыклад, у залежнасці ад урадлівасці земляў — зважаючы на бальнасць глебы. Таму што калі ў мяне на палетках пяскі, то пры аднолькавых выдатках на ўгнаенні, розныя агратэхнічныя захады, тэхніку, паліва і так далей я магу атрымаць ураджай, які ўдвая меншы, чым у гаспадарцы са спрыяльнай глебай.

Слушна, каб аказвалася аднолькавая падтрымка ўсім гаспадаркам незалежна ад іх формы ўласнасці. І фермерам таксама. На кілаграм выпрадукаванага мяса, на літр малака. Тады і кіраўніцтва такіх прадпрыемстваў будзе дбаць пра тое, каб выраблялі прадукцыю як мага больш эфектыўна. На жаль, у нас пакуль усё вырошчваецца і гадуецца па прымусе зверху.

Але рэгіёны Беларусі адрозніваюцца па рэльефе мясцовасці, глебе, клімаце. Скажам, на Віцебшчыне тэрміны сяўбы амаль на два месяцы адрозніваюцца ад Гомельшчыны. А рэльеф такі, што падчас жніва часта камбайны пераварочваюцца. Таму, у прыватнасці, там варта засейваць палі травамі. І хай бы нават каровы ці авечкі самі туды прыходзілі



# дзяржаўнага чалавека»

іх жваць-спажываць, бо ўбіраць тэхнікай — і нязручна, і гэта выдаткі на паліва, абслугоўванне, рамонт. Жывёлам жа ўсё адно — па гары хадзіць ці па роўнай пляцоўцы.

***— І што, у нас не могуць заняцца зменамі нават у такіх простых справах?***

— Урад якраз некалькі гадоў таму вырашыў, што Віцебшчыне варта спецыялізавацца на травах. Гэта толькі адзін прыклад таго, што трэба было рабіць не 2–3 гады, а 25 гадоў таму!

***— Што да субсідыяў. Без падсілкавання нашай сельскай гаспадаркі яе развіццё немагчымае?***

— Без субсідыяў не абысціся. Бо сельскую гаспадарку субсідуюць у Германіі, Расіі, Украіне — усе суседзі. Мы папросту не зможам канкураваць. Прычым нашы субсідыі нібыта вялізныя, але калі параўноўваць з той самай Германіяй, то яны меншыя ў разы. Там гэта 500 еўра на гектар, а ў нас і 100 не выходзіць. І субсідаванне там выразна прапісанае заканадаўча. У нас жа субсідыі дзеляцца так, як і наогул вядзецца кіраванне сельскай гаспадаркай і эканомікай. У ручным рэжыме. Гэтаму «калгасу» дамо, каб не знік, а той сам неяк выжывае — і добра.

Самая падставовая праблема палягае ў тым, што ў нашай сельскай гаспадарцы няма бізнесу як такога. Прадпрыемствы ў гэтай галіне — не бізнес-структура, а вытворчыя цэхі, якім дадзена, што і колькі трэба вырабіць без увагі на сабекошт ды іншыя варункі. Пры іншым падыходзе палова такіх прадпрыемстваў закрылася б. Хапае і лішніх працаўнікоў у іх. У таго самага фермера людзей працуе на аднолькавай плошчы меней, чым у «калгасе». А прадукцыі вырабляецца болей.

## Лішнія рукі

***— Самі людзі разумеюць заганнасць такой сістэмы?***

— Не. Людзі ўдзячныя Лукашэнку, што дае працу. Днямі размаўляў са знаёмым «калгасным» кіроўцам. У красавіку за 30 дзён працы, без выходных, ён зарабіў 600 рублёў. Кажа: «Ну, куды я яшчэ пайду і такія грошы знайду?!»

А між тым, многія прыватнікі не трымаюць транспарту, а наймаюць яго пры патрэбе нейкіх грузаперавозак. У выніку гэта эканомія на захоўванні, рамонце тэхнікі. І заробак не трэба плаціць кіроўцу ўсесезонна, незалежна ад таго, маецца праца ці не. Дый сапраўдны гаспадар шмат што ўмее і робіць сваімі рукамі. Замежны досвед паказвае, што там кіраўнік гаспадаркі і карову падаіць можа, і на трактары папрацаваць, а не толькі рассякаць па полі на джыпе ды па райвыканкамаўскіх нарадах ездзіць, як нярэдка бывае ў нас.

***— Як адбіваецца такі крываваты лад на працавітасці сучасных вяскоўцаў?***

— Ад чалавека залежыць. Адзін і ў СВК спраўна працуе, і дома на прысядзібным участку ўсё ў парадку, 4–5 свіней трымае, 20 кураў, дзяцей у Мінску корміць, а другі і дома ў паўсілы робіць, і ў «калгасе» абы-як. А заробак аднолькавы. Гэта крыўдна. Але так будзе, пакуль сельскагаспадарчыя арганізацыі не ператворацца ў бізнес-ячэйкі.

***— Пасля чатырох гадоў працы старшынёй СВК у Стаўбцоўскім раёне вы працавалі дырэктарам аграрнага каледжа ў Смілавічах. Наколькі прэстыжныя сёння аграрныя прафесіі ў Беларусі, якая мае імідж аграрнай краіны?***

— Асаблівага попыту на аграрныя спецыяльнасці няма. Ва ўсе такія каледжы бяруць без экзаменаў. Калі іх увесці — будзе недабор. Так што задача — неяк набраць навучэнцаў і закрыць заяўкі арганізацыяў. І на значную колькасць спецыяльнасцяў у аграрныя вышэйшыя навучальныя ўстановы нізкі конкурс. Бяруць з мізэрнымі баламі на ЦТ. Моладзь часта ідзе туды вучыцца па рэшткавым прынцыпе. Хаця ёсць і тыя, хто жадае працаваць менавіта ў сельскагаспадарчай галіне, свядома паступаючы вучыцца па профільных спецыяльнасцях. Напрыклад, мой сын-дзевяцікласнік хоча стаць ветэрынарным лекарам — і ўжо рыхтуецца.

***— Ці шмат кіраўнікоў і працаўнікоў сельгаспрадпрыемстваў мараць стаць гаспадарамі-фермерамі? Ну і ці шмат з іх тых, хто валодае адпаведнымі кампетэнцыямі?***

— Можна быць добрым кіраўніком, менеджарам, але не мець здольнасцяў стаць бізнесоўцам. Гэта трэба прымаць рашэнні, мець доўгатэрміновую стратэгію, адказваць уласнымі маёмасцю і грашыма за тыя самыя ўзятыя крэдыты. Цяпер жа ў старшыні «калгаса» галава не баліць: яму спусцілі заданне што пасеяць, як не аддасць крэдыт — наступнік на пасадзе паспрабуе аддаць, за няўдачы — максімум звольняць, калі красці не будзеш.

Што да вясковых працаўнікоў, то жаданне пайсці ў фермеры ёсць шмат у каго, але не ў большасці. Многія зайздросцяць тым, хто працуе ў фермераў. Ну і фермеры бяруць да сябе не ўсіх, хто ў «калгасе» працуе. У «калгасе» даводзіцца працаваць з тымі, хто ёсць, а фермер наймае тых, каго хоча, хто яму патрэбны.

У сезон фермер плаціць добра. Але людзі трымаюцца за «калгасныя» пасады, разважаючы так: гэта стабільна, ёсць праца ці няма — мяне пракормяць, нават калі няма — атрымаю свае 200 рублёў.

***— Ці маеце вы самі мару стаць фермерам?***

— Мне падабаецца праца ў сельскай гаспадарцы, ляжыць да гэтага душа. Хоць я цяпер працую ў прыватнай фірме ў іншай галіне, але вядзем з бацькам асабістую прысядзібную гаспадарку. Напрыклад, паўсотні галоваў авечак. Гэта далёка ад фермерства, проста дадатковы даход ад продажу лішкаў.

Каб была ў нас іншая эканамічная сістэма, то з радасцю стаў бы фермерам. Ці выкупіў бы «калгас», але гэта вялікія грошы — мільёны долараў, усё ж зямля! У нашай краіне няма такіх грошай, каб купляць калгасы. А вось з усходняй суседкі Расіі, каб была магчымасць, скупілі б за два тыдні. І працаваць, можа быць, беларусам там давялося б, у горшых умовах, чымсьці цяпер.

## Разносы на вертыкалі

***— Калі б апынуліся ў кіраўніцтве ўсёй сельскагаспадарчай галіны, што б зрабілі ў кірунку рэформаў у першую чаргу?***

— Перадусім трэба рэальна ўраўняць у правах усе формы ўласнасці. Каб у сельскай гаспадарцы запанавалі сумленная канкурэнцыя і бізнес-падыходы.

Возьмем да прыкладу авечкагадоўлю. Нейкі час таму ўзялі курс на яе развіццё. Выдаткавалі выбраным агромністыя грошы на авечкагадоўчыя комплексы. Але ж сыравіну можна купляць у насельніцтва. Я, напрыклад, трымаў бы тады не 50, а 200 галоваў. Бо стрыжэм авечак, а поўсць няма куды падзець. Складаем у мяхі — і на гарышча. Ідзе як уцяпляльны матэрыял. Бывае, знаёмыя тэлефануюць і пытаюць: «Па чым воўна?». Кажу, каб прыязджалі і задарма бралі. Каб устанавілі кошт за кілаграм воўны, людзі, якія разводзяць авечак, здавалі б яе на спецыялізаваныя камбінаты.

Тое самае са скурай — даводзіцца папросту ўтылізоўваць. То-бок, шмат чаго прападае. Каб дзейнічалі нейкія тарыфы і была наладжаная сістэма ў насельніцтва, то людзі б самі развівалі авечкагадоўлю. І не трэба ўбухваць вялізныя грошы ў комплексы.

Але ў нас баяцца даць грошы ў прыватныя рукі. Маўляў, прыватнік сам выкараскаецца, дасць рады. І гэтак з тымі самымі крамамі на сяле. Узяліся падтрымліваць «райпоўскія» крамы, дык а чаму не падтрымаць, не заахвоціць лаўкі дробных прыватнікаў, калі манаполія таго самага «Еўраопту» бачыцца небяспечнай?

Кіраўнік краіны лічыць, што дзяржаўныя грошы павінны ісці на дзяржаўныя патрэбы. Слушна, але пытанне: чаму ўлады не бачаць і ў прыватніку дзяржаўнага чалавека? У мяне вось уласная прысядзібная гаспадарка, я такі самы суб'ект гаспадарання паводле закона, выраблю прадукцыю, выконваю санітарныя нормы і так далей. Я — частка дзяржавы.

Тое самае і з райвыканкамаўскімі чыноўнікамі, якія распараджаюцца якімі-някімі бюджэтамі: не давядзі Бог, нешта патрапіць прыватніку! Ці прыйдзі і паспрабуй у іх папрасіць як фермер добрую зямлю, хай і прынясеш болей падаткаў...

А потым Аляксандр Лукашэнка будзе ездзіць па Беларусі і наракаць на гармідар у самых розных галінах. Так гармідар і застанецца, пакуль не з'явіцца гаспадар!

***— Дарэчы, вось гэтыя разносы — яны па ўсёй вертыкалі ідуць? Як да іх ставяцца кіраўнікі розных узроўняў?***

— Многія нязгодныя з такой сістэмай, але куды пайсці-падацца? Вось таму змірыліся і працуюць у такім заведзеным стылі. Шмат старшыняў райвыканкамаў, сельгаспрадпрыемстваў — разумныя кіраўнікі, годныя і больш высокіх пасадаў.

Адстаўлены ў сакавіку са скандалам міністр сельскай гаспадаркі Леанід Заяц — талковы міністр. Я ведаю Леаніда Канстанцінавіча асабіста. Калі ён быў старшынёй Камітэту па сельскай гаспадарцы Мінскага аблвыканкаму, то прыязджаў у раён да нас. І не ўчыняў публічнага лупцавання, а спакойна раіў мне, маладому кіраўніку, да чаго трэба прыгледзецца, што выправіць.

Здымаць паказальна міністра праз абпэцканую карову?! Парадак і дысцыпліна павінны быць, так. Але калі дождж, то можна паехаць у любую гаспадарку, нават у лепшую — знакамітыя «Сноў» ці «Александрыйскае» ў Шклоўскім раёне — і знойдзем там брудных кароваў. На выгуле яны абавязкова залезуць у бруд, лягуць у лужыну.

Гэта праява каманднай эканомікі. Разносы ідуць па ўсёй вертыкалі кіравання. Ад кіраўніка краіны — да старшыняў аблвыканкамаў, ад тых дастаецца старшыням райвыканкамаў, якія ў сваю чаргу выгавораюць дырэктарам сяльгасарганізацый. А тыя потым прыязджаюць да сябе — і «строяць» з мацюкамі падначаленых працаўнікоў, даводзячы зададзеныя паказчыкі.

Знікне камандная эканоміка — разваліцца і вертыкаль улады. І «прыгонна-калгасны» люд ужо не прымусіш тады ісці з амаль 100-працэнтнай яўкай на выбары...



Фота www.cnips.in.ua

**Чаму ўлады не бачаць і ў прыватніку дзяржаўнага чалавека? У мяне ўласная прысядзібная гаспадарка, я такі самы суб'ект гаспадарання, выраблю прадукцыю, выконваю санітарныя нормы і так далей. Я — частка дзяржавы**



# Стаць фермерам і не збанкрутаваць?

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**За перыяд са студзеня па красавік 2019 года: на долю сяльгасарганізацый прыпадае 95,2% у жывой вазе жывёлаў і птушак і 97,2% — малака. Астатняе выпрадукавалі фермерскія і хатнія гаспадаркі. Як модна казаць, гэта ўсё, што трэба ведаць пра развіццё фермерства ў Беларусі.**

Між тым, менавіта фермеры прасоўваюць у сельскай гаспадарцы «зялёную эканоміку», дбаючы і пра экалогію, і пра здароўе нацыі. Быць фермерам у нашай краіне складана, а фермерам-арганікам — тым болей. Журналіст «Новага Часу» Міраслаў Гажэцкі разбіраўся, як стаць фермерам і выраблць каштоўны натурпрадукт — кураў без антыбіётыкаў ды гародніну без пестыцыдаў.

Летась Белстат апрылюднiў даследаванне пра дзейнасць СФГ — сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак за 2010–2017 гады. За гэты час іх колькасць павялічылася ўсяго толькі з 2442 да 3168. А працавалі там меней за 10 тысяч чалавек. Няма і 4 чалавек на адну фермерскую гаспадарку. Дзве траціны працаўнікоў фермерскіх гаспадарак — наёмныя.

Доля фермераў сярод усёй сельскагаспадарчай прадукцыі ў Беларусі — 2%. Па відах прадукцыі: найбольш фермерскія гаспадаркі вырошчваюць гародніны — іх доля тут складае 18,7%, асобна лічацца бульба — 6% і буракі — 2,5%. Такім чынам, гэта першая падказка наконт таго, чым варта заняцца навасьпечанаму фермеру — у прыватнасці, тымі самымі гуркамі ці зелянінай.

Рэнтабельнасць продажаў ад СФГ па краіне — 18,3%. Яшчэ адна падказка: у лідарах Брэстчына і Гродзеншчына — 23,9% і 20,1%. Ёсць сярод фермерскіх структураў і стратныя, але іх працэнт нашмат меншы за аграпрамысловыя прадпрыемствы — 10% супраць больш як 60%.

## Круціцца як Шруб

Каб стаць фермерам, пажадана, канечне, мець досвед пасадак хоць бы на лецішчы ці біялагічную адукацыю. Зрэшты, хапае гісторыяў, калі паспяховымі фермерамі станавіліся гарадскія сем'і без аградосведу: інтэрнэт і спецыялізаваная літаратура ў дапамогу жаданню і працавітасці! Натуральна, варта вывучыць заканадаўства — Зямельны кодэкс, закон «Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы», указ «Аб выманні і прадастаўленні зямельных участкаў». Фермер можа атрымаць ад дзяржавы ў дармавое пажыццёвае карыстанне да 50 гектараў зямлі, якую можна будзе перадаваць па спадчыне.

Заява аб пацвярджэнні магчымасці размясціць фермерскую гаспадарку на пэўным абшары разглядаецца мясцовым райвыканкамам цягам месяца. Па атрыманні дазволу можна рэгістраваць фірму — уласна фермерскую. Для гэтага патрэбны кароткі спіс дакументаў, у прыватнасці статут вашай гаспадаркі і аплата рэгістрацыі ў памеры ўсяго 0,8 базавай велічыні. Ажыццяўляецца рэгістрацыя ў дзень падачы адпаведнай заявы. Далей трэба зарэгістраваць зямельны надзел. Дарэчы, добрая навіна: першыя тры гады фермер вызвалены ад аплаты зямельнага падатку. Але і пасля гэтага тэрміну можна дамагчыся падатковых ільготаў ад мясцовых уладаў. Зразумела, што трэба будзе плаціць падаткі як вытворцу сяльгаспрадукцыі.

Якія — залежыць ад таго, мае фермер наёмных працаўнікоў ці не. Бухгалтарскі ўлік — спрошчаны.

Ясная справа, што трэба мець стартавы капітал ці ўзяць крэдыт — на насенне, інвентар, тэхніку, заробак наёмным працаўнікам, на розныя гаспадарчыя пабудовы, упакоўку для прадукцыі ды іншае. Выдаткаў і завіханняў багата, але ж вочы баяцца, а рукі робяць! А раптам вы — новы Міхаіл Шруб, знакаміты беларускі буйны фермер, чыя гаспадарка ў Жыткавіцкім раёне з 3% яго зямлі дае амаль 30% ад усёй сельскагаспадарчай выручкі тамтэйшых агрaпрадпрыемстваў!

А пачынаў Міхаіл Шруб з 20 гектараў, маючы некалькі матыкаў ды кабылу. Праз 10 гадоў ён ужо выраблаў прадукцыі болей, чым суседнія калгасы, якія мелі ў дзясяткі разоў большыя плошчы, прычым плаціў працаўнікам у некалькі разоў болей. У выніку праз нейкі час працаўнікі аднаго калгасу — з нафталінавай назвай «Шлях да камунізму» — сабраліся і прынялі сенсацыйнае рашэнне далучыцца да фермерскай гаспадаркі Міхаіла Шруба!



У Беларусі ладзіцца дастаткова шмат розных семінараў па адкрыцці і вядзенні вясковага бізнесу ды існуе шэраг грантавых праграмаў для прадпрымальніцкіх ініцыятываў пры падтрымцы Еўрасаюза. Паўдзельнічаўшы ў іх, апрача ведаў, можна нават атрымаць дадатковыя грошы да ўласнага стартавага капіталу на добрую сельскагаспадарчую ідэю з бізнес-планам. Пашукайце ў інтэрнэце, да прыкладу, мерапрыемствы, падобныя да тых, што арганізуюцца ў межах праекта «Развіццё сельскіх тэрыторый у Рэспубліцы Беларусь».

Так, удзельнікі Школы вясковага бізнесу ў мястэчку Камарова Мядзельскага раёна запусцілі ці цяпер ствараюць такія сельскагаспадарчыя справы, як перапрацоўка арганічнага зерня грэчкі ў крупы, фасаванне іх і продаж, выраб біягумусу з утылізацыяй адходаў буйной рагатай жывёлы, праца безадходнай фермы з уласнай вытворчасцю кармоў.

Дастаткова шмат бізнес-навучальных праграм для вясковых прадпрымальніцкіх ініцыятываў скіраваныя менавіта на сельскагаспадарчыя вытворчасці з прыстаўкамі «бія» ды «эка». Прычым гаворка пра сапраўды арганік-прадукцыю, а не пра хітрыка-маркетынгавыя цэтлікі. Заахвочваннем такой сяльгасвытворчасці заняліся і ўлады Беларусі, прычым практычна асвойваюць яе перадусім фермеры.

## Майстэрства арганікі

У лістападзе мінулага года быў апублікаваны закон «Аб вытворчасці і абарачэнні арганічнай прадукцыі». Дзейнічаць ён пачне ў лістападзе. Якія спрыяльныя змены ён прынясе для экафермераў, прыхільнікаў «зялёнай» эканомікі ды здаровага харчавання?

Вырошчванне экалагічна чыстых прадуктаў — сусветны трэнд. Бо ў сельскай гаспадарцы ўсё болей і болей выкарыстоўваюцца мінеральныя ўгнаенні пестыцыды, гербіцыды і розныя таксічныя хімічныя сродкі аховы агракультураў. А гэта — наўпростая пагроза прыродзе і здароўю чалавека. Пры арганічным земляробстве нічога гэтага не ўжываецца.

Нават ва ўразлівым да праблемы экаежы Еўрасаюзе пад арганічнае земляробства задзейнічана пакуль што толькі 7% сяльгасугоддзяў. Дарэчы, самая перадавая краіна ў гэтым плане Аўстрыя — 23%, Эстонія — 20%, Швецыя — 19%, Італія — 15%, Чэхія і Латвія — па 14%. Так што падобны досвед пераймаць можна зусім блізка — у суседзяў-латвійцаў.

У Беларусі сертыфікаваныя як тыя, што апрацоўваюцца ў арганік-спосаб, толькі паўтары тысячы гектараў зямель. Такое земляробства ў розных стадыях развіцця вядуць толькі некалькі дзясяткаў аграпрамысловых суб'ектаў.

Калі закон «Аб вытворчасці і абарачэнні арганічнай прадукцыі» запрацуе, вытворцу экаежы будзе выдавацца адмысловы знак-сертыфікат «Арганічны прадукт», якім можна будзе яе маркіраваць. Вось так спажывец і зможа адрозніваць сапраўды экалагічна чыстую прадукцыю ад падманнай.

Дарэчы, навуковыя даследаванні паказваюць, што нават тыдзень дыеты на арганічных прадуктах істотна зніжае канцэнтрацыю пестыцыдаў у арганізме (не забывайма, што ў кожным з нас гэтай дрэні багата). Рост папулярнасці здаровага ладу жыцця, у тым ліку здаровага харчавання і аховы навакольля, павінен паспрыяць попыту на такую прадукцыю. Пагадзіцеся, што культ гародніны і зеляніны «са свайго агароду» існуе. Але маюць такі натурпрадукт не ўсе, дый уладальнікі лецішчаў усё часцей ператвараюць грады ў газоны і адпачынкавыя зоны.

Дарэчы, паводле сацыялагічнага апытання, якое праводзіў Гродзенскі дзяржаўны аграрны ўніверсітэт, купляць арганічную прадукцыю, якая будзе ўдвая даражэйшай за, скажам так, традыцыйную, гатовыя крыху больш за чвэрць беларусаў. Калі ж попыт унутры Беларусі будзе замалы, бо кошты, натуральна, на экаежу заўважна вышэйшыя, то калі ласка — экспартуй у больш заможны ЕС, дзе маштабы спажывання экапрадукцыі перавышаюць аб'ёмы вытворчасці, ці Кітай, дзе з экалогіяй зусім кепска.

Цяпер у Беларусі працуюць некалькі інтэрнэт-пляцовак («Экаежа», «Кансорцыя арганічных гаспадарак»), праз якія аб'ядналіся і прадаюць сваю прадукцыю экафермеры. Нехта з іх ужо мае аўтарытэтныя замежныя «зялёныя» сертыфікаты, якія пацвярджаюць арганік-статус вырашчанага ўраджаю, хтосьці — чакае атрымання такога дакумента.

Бо працэс пераходу на экавытворчасць паводле прынятых стандартаў і ацэнкі адмыслоўцаў-інспектараў на адпаведнасць гэтым стандартам расцягваецца на гады.

Магчыма, калі-небудзь і наша дзяржава па прыкладзе Захаду зможа датаваць арганічнае земляробства на перыяд сертыфікацыі. Экалагічна-эканамічны энтузіязм варта падтрымліваць.



Фота www.svoboda.org

# Новы прэзідэнт, новыя партыі

Алег НОВІКАЎ

**Пасля абрання Уладзіміра Зяленскага прэзідэнтам, ва Украіне імкліва змяняецца палітычны пейзаж. Ледзь не штодня заяўляюць пра сябе новыя партыйныя праекты, чые лідары маюць вялікія амбіцыі.**

«Украінская стратэгія», «Сумленне Украіны», «Голас», «Сіла і гонар» — далёка не поўны спіс партый, што пачалі піярыцца апошнім часам.

Найбольш гучны рэзананс пакуль выклікала з'яўленне партыі «Голас», якой кіруе музыка Святаслаў Вакарчук. Паводле Вакарчука, стварэнне партыі стала адказам на развіццё палітычнай сітуацыі ў краіне. «Мы ўсе стаміліся ад таго, як цяпер робіцца палітыка ва Украіне... Мы стаміліся ад таго, як палітыкі абяцаюць нам перад выбарамі залатыя горы, а потым, атрымаўшы мандат, зноў і зноў здраджваюць нам, пераследуюць выключна ўласныя інтарэсы», — паскардзіўся Вакарчук падчас прэзентацыі. У якасці альтэрнатывы ён прапануе ўкраінцам галасаваць за свой «Голас», які татальна «знішчыць старую палітыку». Вакарчук абяцае не браць у свой выбарчы спіс палітыкаў з дэпутацкім бэкграўндам.

Зрэшты, пакуль масавага энтузіязму наконт паходу Вакарчука ў палітыку не назіраецца. У экспертным асяроддзі дамінуе меркаванне, што «Голас» — спехам злеплены праект пад тэзісы кампаніі Зяленскага. Прычым, праект запознены. Запыт на абнаўленне палітыкі нават коштам абрання артыста быў, але гэты запыт Вакарчук прашчоўкаў.

Скепсіс адносна Вакарчука выклікае і мінулае. У 2004 годзе ён ужо быў дэпутатам па спісах «Нашай Украіны» Ючшанкі. Аднак неўзабаве склаў мандат, матывуючы тым, што «гэта (палітыка) — не яго». Нарэшце, ёсць меркаванне, што «Голасам» кіруе Парашэнка: падчас кампаніі Вакарчук відавочна падыгрываў Пятру Аляксеевічу, заклікаючы «не галасаваць па прыколе».

Што да Парашэнкі, то ён абяцае хуткі рэванш, спадзеючыся кансалідаваць вакол сваёй персоны 25 працэнтаў выбаршчыкаў. Менавіта столькі галасавалі за яго ў другім туры. Аднак, відавочна, што не сімпатызаваць Зяленскаму — не азначае на аўтамаце быць заўзятым прыхільнікам экс-прэзідэнта. Згодна з вынікамі апошняга сацапытання, у партыі Блока Пятра Парашэнкі (БПП) цяпер толькі 7,8 працэнта падтрымкі. Кепска могуць адбіцца на лёсе БПП і гучныя крымінальныя справы супраць як самога экс-гаранта, так і яго атачэння. Прынамсі ў першы дзень пасля сыходу Парашэнкі з пасады прэзідэнта, супраць яго распачалі справу за спробу ўзурпацыі ўлады.

Не кажучы пра тое, што ад Парашэнкі ў апошні час актыўна разбягаюцца партнёры. Пра сыход у аўтаномнае плаванне ўжо заявіў прэм'ер Уладзімір Гройсман, у якога, дарэчы, ёсць зарэгістраваная структура пад незвычайнай назвай «Вінніцкая еўрапейская ініцыятыва». «Кінуў» экс-гаранта і кіеўскі бургамістр Віталь Клічко са сваёй партыяй «Удар», якую, дарэчы, на выбары можа павесці іншы баксёр — яго брат Уладзімір. А вось «Народнаму фронту», падобна, нічога не свеціць з-за адмоўнага іміджу яго лідара і былога прэм'ера Арсенія Яцанюка. На яго павесілі ўсіх сабак за падзенне жыццёвых стандартаў. Паводле сацыёлагаў, узровень падтрымкі гэтай палітсілы сёння ў межах статыстычнай памылкі — менш за 1%.

Як мадыфікаваныя старыя партыі, так і партыі-неафіты пасвяцца ў патрыятычнай нішы. Як вынік, іх рыторыка — нацыянал-кансерватыўная або праваліберальная. Між тым у топе пажаданняў украінцаў — нізкія тарыфы ды мір на ўсходзе краіны. Таму можна прагназаваць, што лідарам у гэтым сегменце застанецца Юлія Цімашэнка, якой няма роўных у сацыяльным папулізме. Што да астатніх, то іх чакае суровая рэальнасць у выглядзе сумнага факту: яны ў гэтай краіне не патрэбныя нікому, акрамя піяршчыкаў.

Праўда, правадыры нацыяналістычных партый могуць спадзявацца на эрозію вельмі стракатага электарату Уладзіміра Зяленскага. Відавочна, што ў новага прэзідэнта не атрымаецца адначасова задавальняць часам палярныя забабоны выбаршчыкаў з Львова і Харкава. Аднак пакуль лагер аматараў «Зе» дэманструе беспрэцэдэнтную маналітнасць. Паводле апошніх апытанняў, за партыю «Слуга народа» гатовыя аддаць голас больш за 40 працэнтаў.

Мяркуючы па ўсім, украінцы гатовыя даць шанец новаму прэзідэнту, забяспечыўшы яму ў Радзе прапрэзідэнцкі дэпутацкі корпус. Заява Зяленскага падчас інаўгурацыі аб роспуску вельмі непапулярнага парламента і датэрміновых выбарах, мяркуючы па першых каментарах, яшчэ больш кансалідуе тых, хто верыць у новага прэзідэнта.

Самае цікавае, што парламент і ўрад нечакана пагадзіліся на датэрміновыя выбары. Магчыма, праціўнікі Зяленскага спадзяюцца, што да дня галасавання людзі будуць больш цвяроза ставіцца да новай каманды, якой цяпер давядзецца адказваць за тыя ж тарыфы. Яшчэ адна версія — кулуарна Зяленскі паабяцаў панізіць да трох працэнтаў прахадны бар'ер у Раду.

З іншага боку, не зразумела — як і адкуль Зяленскі рэкрутуе ў выбарчы спіс сваёй партыі столькі паслядоўных аднадумцаў-рэфарматараў. Раней гучала інфармацыя, што на месцах секцыі «Слугі народа» папаўняюць былыя рэгіяналы і рознага кшталту прайдзісветы. Таму крызісных з'яваў унутры новай партыі наўрад ці атрымаецца пазбегнуць.

Не зразумела таксама — калі ўкраінцаў паклічуць на ўчасткі для галасавання? Прызначэнне дня выбараў упіраецца ў дату, калі ў Радзе перастала існаваць кааліцыя «Блока Парашэнкі» і «Народнага Фронту», што, паводле Канстытуцыі, дае гаранту права на роспуск заканадаўчага органа. Спісу кааліцыянтаў, сапраўды, ніхто не бачыў аж з 2016-га, але юрыдычна адсутнасць кааліцыі таксама не даказана. Не выключана, што нас чакае супрацьстаянне парламента і шостага прэзідэнта. У выпадку перамогі Зяленскага Украіну чакаюць незвычайныя выбары. Яны павінны адбыцца 7 ліпеня, калі ў краіне традыцыйна пануе спякота.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІНДЫЯ. Касты і прыбіральні

У Індыі прайшлі агульныя выбары, на якіх перамогу святкавала Індыйская народная партыя (BJP). А гэта азначае, што ў краіне працягнецца незвычайная рэформа, згаданая ў партыйнай выбарчай праграме. Гаворка ідзе пра поўнае знішчэнне практыкі «адкрытай дэфекацыі». Да гэтага часу многія індусы ладзяць прыбіральні на вуліцы, што выклікае крытыку. Каб скончыць з гэтай негатыўнай з'явай, дзяржава запусціла праграму з бюджэтам 1,3 мільярда долараў па абсталяванні кожнага дома каналізацыяй. Аднак пакуль яе вынікі не выклікаюць аптымізму. За папярэднія пяць гадоў каналізацыю ўдалося правесці ў 55 працэнтаў будынкаў. Прычым, апынулася, што галоўная праблема — не фінансавая або тэхнічная. Справа ў тым, што многія прадстаўнікі арыстакратычных кастаў разглядаюць змыванне вады ва ўнітазе як занятак, несумяшчальны з іх статусам. Звычайна ўборкай адходаў жыццядзейнасці займаліся ў Індыі самыя нізкія касты так званых «недатыкальных». Якім чынам будуць вырашаць у BJP праблему кастаў і прыбіральняў, пакуль не зразумела. У тым ліку таму, што нацыяналісты выступаюць у абарону індускай традыцыі, якая ўключае ў сябе і каставую сістэму.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Імамы за кіраўніка

Ужо даўно ў мячэцях Туркменістану падчас пятнічнай малітвы імамы заклікаюць грамадзян любіць кіраўніка Гурбангулы Бердымухамедава, прасіць Бога пра здароўе і доўгія гады для яго. Аднак апошнім часам яны пайшлі яшчэ далей. Па словах журналістаў, да заклікаў любіць гаранта цяпер дадаўся праклён на адрас яго ворагаў. Тым, хто крытыкуе Гурбангулы, імамы абяцаюць як мінімум цяжкія хваробы. Простыя туркмены, калі верыць апазіцыйным медыя, выказалі незадаволенасць тым, што ўлады выкарыстоўваюць рэлігію як інструмент дзяржаўнай прапаганды. Між тым, сам прэзідэнт Гурбангулы Бердымухамедаў знайшоў сабе новую забаву: днямі, пагуляўшы са шчанюкамі алабаяў памежнікаў, абвясціў, што вырашыў напісаць кнігу пра гэту пароду сабак.

**Паводле туркменскай прэсы**

### РАСІЯ. Новыя ўласцівасці лаянкі

Дэпутат аднаго з райцэнтраў Новасібірскай вобласці Міхаіл Бардашэвіч заклікаў кіраўніцтва рэгіёну пачаць крыжовы паход супраць нецэнзурнай лексікі. У прыватнасці, Бардашэвіч прапанаваў арганізаваць урокі маральнасці і духоўнасці ва ўсіх навучальных установах раёна, каб адвучыць моладзь ад лаянкі. Лаянка так моцна хвалюе дэпутата, паколькі, на яго думку, выклікае мутацыю ў целе чалавека, праблемы з патэнцыяй, і — як вынік — калапс расійскай нацыі. Паводле яго слоў, лаянка таксама адмоўна ўплывае на ўраджай пшаніцы, а ў целе чалавека «храмасомы мяняюць сваю структуру» — і ўключаецца «праграма на самаліквідацыю». Таксама там гаворыцца, што чалавечы эмбрыён можа чуць мацюкі і «курчыцца ў пакутах», бо «не ў сілах абараніцца ад пагібельнай энергіі». Цяжка сказаць, ці акажа прапаганда эфект на насельніцтва. Пакуль самую вялікую рэакцыю ідэі Бардашевіча выклікалі ў асяроддзі ўкраінскіх нацыяналістаў, якія даўно носяцца з ідэяй, паводле якой менавіта «мацюкі ператвараюць украінцаў у маскалёў».

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРГ. Піяр на ваўках



Ульрыка Фокен, адна з кандыдатак ад нямецкай правапапулісцкай партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) на выбарах у Еўрапарламент, прыдумала арыгінальны піяр. Яна, у выпадку перамогі, абяцае выратаваць немцаў ад... ваўкоў. Ваўкі, па словах Ульрыкі, пагражаюць бюргерам з-за праклятага Еўрасаюза, які забараніў нямецкім фермерам адстрэльваць шэрых драпежнікаў, што атакуюць усходнія межы ФРГ з суседняй Польшчай. У выніку нашэсця ваўкоў людзі ва ўсходніх землях ФРГ, нібыта, баяцца шпацыраваць у лесе, і нават выходзіць на вуліцы ўвечары. Дзякуючы незвычайнасці палітычнай рэкламы фраў Фокен тэма пагрозы ваўкоў стала адной з самых папулярных напярэдадні выбараў. Праціўнікі аспрэчваюць тэзісы актывіста AfD, спасылаючыся на статыстыку. Усяго ў Германіі налічваецца каля 400 ваўкоў, якія, як правіла, не ўяўляюць асаблівай пагрозы для людзей. Дастаткова сказаць, што апошні раз у Еўропе воўк загрыз чалавека ў 1974 годзе. Наколькі немцы баяцца ваўкоў, мы даведаемся ў гэты ўік-энд, калі пройдуць выбары і стануць вядомыя вынікі кандыдаткі ад «Альтэрнатывы для Германіі».

**Паводле нямецкай прэсы**

# «Крык народаў»

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Французская прэса міжваеннага перыяду ігнаравала беларускую тэму, бо бачыла на іншым баку Еўропы хіба Расію-СССР. Так было і з прычыны адсутнасці рэальнай беларускай дзяржавы, і з прычыны моцных сувязяў паміж Расіяй і Францыяй. Ім зручней было ігнараваць геапалітычныя змены і хварэць на геаграфічную слепату.**

Афіцыйных франка-беларускіх стасункаў у той перыяд папросту не існавала. Але неафіцыйная гісторыя французскай беларусікі безупынку пісалася, напаўнялася новымі героямі, падзеямі. Некаторыя французскія газеты выбіваліся з агульнага малюнку: так, левая газета «Le Cri des peuples» («Крык народаў»), заснаваная адданым еўрапейцам, камуністам і атэістам Бернарам Лекашам, цягам 1928–1929 гадоў друкавала шмат артыкулаў і зацемак пра прыгнечаныя народы Еўропы і свету, у тым ліку беларусаў. У прадмовах рэдактара часта паўставала беларуская тэма ў звязку з «польскай барбарыяй» і прыгнётам беларусаў у так званых «Крэсах».

«Крык народаў» з'яўляўся голасам, крыкам беларусаў у Францыі, бо масавыя, папулярныя і праафіцыйныя газеты захоўвалі дыпламатычнасць да польскіх уладаў і замоўчвалі тое, што дзеялася ў аўтарытарнай Польшчы. Толькі праеўрапейскі і пракамуністычны «Крык народаў» дазваляў сабе зацята крытыкаваць Варшаву ў пытанні маргіналізацыі меншасцяў і ўздымаць нязручныя для афіцыйнікаў пытанні і тэмы.

Варта вярнуць імя Бернара Лекаша беларускім чытачам, бо гэта яшчэ адна невядомая старонка беларуска-французскай сувязі, гэта яшчэ адзін сімпатызант беларускай справы, які дасюль застаецца не вядомым у Беларусі. Нарэшце, па матчынай лініі яго лучыць Беларусь, Магілёў. Бернар Лекаш — вядомы французскі журналіст, рэдактар газеты «Крык народаў», пісьменнік, палітык, праваабаронца і заснавальнік у 1927 годзе Міжнароднай Лігі супраць антысемітызму — Ligue internationale contre l'antisémitisme (LICA). У 1979 годзе Ліга супраць антысемітызму стала называцца Міжнароднай Лігай супраць расізму і антысемітызму (LICRA).

Бернар Лекаш паходзіў з усходнееўрапейскіх яўрэяў. Маці Бернара Лекаша — Муся Шымёнаўна Жак — паходзіла з магілёўскіх яўрэяў, а бацька Ёзаф Абрамавіч Леках — з херсонскіх яўрэяў. Напрыканцы XIX стагоддзя сям'я эмігравала ў Францыю, дзе нарадзіўся Бернар Леках, прозвішча якога зыначылася, набыўшы французскае гучанне — Лекаш. Зацікаўленасць Усходняй Еўропай, адначасова яўрэйскай, беларускай і ўкраінскай тэмамі застануцца да канца жыцця ў цэнтры дзейнасці змагара за правы прыгнечаных народаў. Ён валодаў рускай мовай, вандраваў па Украіне, Расіі, быў сябрам Камуністычнай партыі Францыі.

Дзякуючы кнізе-рэпартажу «У краіне пагромаў: калі памірае Ізраіль» (1927), паспрыяў вызваленню забойцы атамана Пятлюры анархіста Самуіла Шварцбарда. Самуіл Шварцбард забіў Пятлюру, бо той быў ініцыятарам шматлікіх пагромаў ва Украіне, дзе загінулі бацькі анархіста. Забойцу пагражала гільяціна, і толькі апраўдальная кампанія, распачатая Бернарам Лекашам, у межах стваранай Лігі супраць пагромаў, вызваліла асуджанага.

Што датычыць прабеларускай дзейнасці рэдактара і газеты ў цэлым, то тут асабліва каштоўнымі, эмацыйнымі і чуллівымі з'яўляюцца прадмовы шматлікіх нумароў «Крыку народаў» рэдактара Лекаша, у якіх чытаюцца яго сімпатыі да ўсіх прыгнечаных народаў, у прыватнасці да беларусаў і ўкраінцаў. У 1928–1929 гадах асноўная крытыка рэдакцыі ў беларускім пытанні ішла ў бок Польшчы, бо скручванне беларусізацыі ў БССР толькі пачыналася, і пра гэта на Захадзе стала вядома значна пазней. Адсюль адсутнасць крытыкі ў бок СССР у міжваенны перыяд, тады як пасля Другой сусветнай вайны Бернар Лекаш накінуўся з крытыкай на СССР з-за сталінізму і з-за цкавання яўрэяў.

У нумары за 27 чэрвеня 1928 Бернар Лекаш змясціў адкрыты ліст удзельнікам XXVI Сусветнага Кангрэсу Міру, які адбываўся ў Варшаве 25–29 жніўня 1928 года, у якім заклікаў не крывадушнічаць і не гуляцца са словам «мір», калі польскія ўлады замоўчваюць гвалт у беларускіх вёсках і мястэчках, пра цкаванні супраць беларускай мовы і беларусаў наогул.

Асобнае пасланне скіроўваў рэдактар «Крыку народаў» спадару Фердынану Бюісону, французскаму педагогу, палітычнаму дзеячу, лаўрэату Нобелеўскай прэміі міру 1927 года, які прымаў удзел у кангрэсе ў Варшаве. Бернар Лекаш заклікаў аўтарытэтнага французскага палітыка ў імя дэмакратыі і французскага змагарства за мір запытацца ў польскіх уладаў пра Вільню, арыштаваных беларускіх і ўкраінскіх актывістаў.

Вядома, Кангрэс Міру нічога не змяніў, аднак, прынамсі, спробы «Крыку народаў» пашырыць веды пра масавыя здзекі ў Беларусі былі падхопленыя іншымі газетамі і арганізацыямі.

Апрача таго ў некаторых нумарах друкаваліся крытычныя артыкулы, падпісаныя дасюль не ідэнтыфікаваным журналістам, які добра разбіраўся ў беларускім пытанні, і які падпісваўся псеўданімам Szystok (Шысток). Напрыклад, 10 красавіка 1929 года газета надрукавала артыкул «Польская дзяржава забараняе ўсякую культуру ў анексаванай Беларусі» (L'Etat polonais supprime toute culture en Blanche-Russie annexée). Аўтар проста пачынае артыкул: «Няма ніякай польскай дэмакратыі, пакуль Польшча здзекуецца з Беларусі...»



5

**Lettre ouverte**

**à MM. les Membres du XXVIe Congrès Universel de la Paix**

*« Le XXVIe Congrès Universel de la Paix siégera à Varsovie du 25 au 29 Juin prochain. »*
(Les Journaux.)

*La Paix est en vadrouille. Elle fait son tour d'Europe. Il était inévitable qu'elle vînt échouer à Varsovie.*

*Depuis longtemps, l'ordre règne dans la capitale de la Reszpopolita : depuis 1918, depuis la Libération, depuis l'Indépendance, depuis que M. Paderewski, ce virtuose, lâchant son piano, s'est mis à signer des décrets présidentiels, depuis que les musiciens jouent à la politique, depuis que les militaires jouent aux demi-dieux. Vous y serez, Messieurs les Congressistes, reçus dignement.*

*Varsovie vaut qu'on la voie. Du côté des grands hôtels, du côté des ambassades, elle est charmante, harmonieuse, et ses palais sont aimables. Vous y serez reçus avec tout l'honneur qui vous est dû.*

*On vous décorera même, si vous aimez cela. Il reste, dans les papiers du Ministère des Affaires Etrangères, quelques diplômes sur lesquels on moulera votre nom en grosse ronde. Ne craignez rien : vous nous reviendrez chamarrés.*

♣ ♣ ♣

*Ce qui serait bien, Messieurs les Congressistes, ce qui séduirait infiniment notre romantisme, ce serait que certaines de vos résolutions fussent empreintes d'un certain esprit. Pour tout vous dire, si ces résolutions étaient pacifistes, nous nous réjouirions. Mais le seront-elles ?*

*J'entends bien que vous prenez ma question pour injurieuse. Elle ne l'est point.*

*Je ne doute pas, nous ne doutons pas de votre pacifisme. D'ailleurs, vous le dites, vous le proclamez, vous vous déplacez, vous vous astreignez à des voyages longs et coûteux pour le proclamer ensemble. Qui oserait douter de votre sincérité, de votre bonne foi, de votre bonne volonté ?*

*En un temps où il est bien porté de s'enrôler dans l'impérialisme, il y a quelque chose d'héroïque à ces confrontations internationales auxquelles vous vous soumettez. Mais je crains que votre héroïsme ne s'arrête là.*

*Car vous êtes en Pologne. Car vous êtes justement en Pologne, dans l'un des pays de l'Europe où votre ennemi le militarisme, où votre ennemi l'impérialisme ne se sont jamais aussi bien portés.*

*Vous êtes les hôtes d'un gouvernement qui a élevé le militarisme et l'impérialisme à la hauteur d'une institution.*

*Vous êtes les invités d'un pouvoir, d'un régime qui semblent ne rien connaître d'autre que l'impérialisme sous toutes ses formes et sous toutes ses rigueurs.*

*Peut-être ne le savez-vous pas. On peut se proclamer pacifiste, lutter pour la paix, et l'ignorer. Parmi vous, il en est qui, depuis des lustres, luttent merveilleusement. Seulement, ils ne savent pas contre quoi, précisément, il convient de lutter. Don Quichotte était un peu comme eux. Cela ne l'empêchait pas de mériter notre sympathie. Cependant, c'était don Quichotte.*

*Ainsi, durant quatre jours, vous allez discuter. Son Excellence, M. Zaleski, vous complimentera sur votre bonne mine et vous dira que son gouvernement est animé des meilleures intentions du monde, qu'il défend à Genève le désarmement général, qu'il espère bien voir venir l'heureux jour où les peuples enfin réconciliés...*

*Mais vous venez d'entendre son discours. Est-ce bien cela ?*

*Il eût été bon que l'un d'entre vous, et le plus qualifié, puisqu'il vient d'obtenir le Prix Nobel de la Paix, M. Ferdinand Buisson, se levât, qu'il intervînt avec toute l'autorité qui s'attache à son âge et à son nom. J'entends déjà sa réponse :*

*— Merci pour vos souhaits, Monsieur le Ministre ! Mais puisque nous sommes ici pour la paix, que faites-vous pour elle ? Parlez-nous de Wilno ! Parlez-nous des Blanc-Russiens persécutés ! Parlez-nous des Ukrainiens jetés dans des culs de basse-fosse ! Parlez-nous de tous ces peuples mineurs à qui vous n'avez pas encore déclaré la Paix, contre qui vous continuez à mener une guerre sans merci ! Parlez-nous des tortures infligées à des milliers d'hommes et de femmes, de ces procès monstres où, par fournées, des villages entiers sont punis d'avoir voulu rester fidèles à leurs origines ! Parlez-nous de cette répression systématique qui discrédite votre jeune République ! Parlez-nous de votre armée, de vos préparatifs ! Ensuite, nous vous parlerons de la Paix.*

*M. Ferdinand Buisson, vénérable républicain, fera-t-il cette réponse ? Il faudrait qu'elle fût faite pour l'honneur de votre Congrès, pour l'honneur de votre cause, pour l'honneur des Français parmi lesquels se rencontrent des membres du Comité pour l'Amnistie (c'est-à-dire pour la Paix, la vraie Paix) en Pologne.*

♣ ♣ ♣

*Autrement quoi, si vous vous taisiez, si vous vous absteniez, si l'on tirait par la manche l'importun qui veut parler, si l'on oubliait un peu trop ce pourquoi l'on est venu, pour ne se souvenir que de politesse et de bonne éducation, alors, nous pourrions dire, et tous les peuples opprimés par les guerres et les après-guerre pourraient dire que vous n'avez pas rempli votre mission.*

*Et vos Congrès, vos belles paroles, vos résolutions, vos promesses, on saurait ce qu'en vaut l'aune.*

*Oui, vous êtes sincères, oui vous voulez la Paix ! Mais si vous revenez sans avoir rien fait, vous aurez lutté contre elle, vous vous serez faits les complices des guerriers.*

*Croyez, Messieurs les Membres du XXVIe Congrès Universel de la Paix, à l'expression, etc.*

Bernard LECACHE.

Далей аўтар закранае пытанне афіцыйнага перапісу, паводле якога ў рэгіёне ад Вільні да Валыні, заселеным пераважна беларусамі, пражывае — раптам — усяго толькі 360 тысяч беларусаў. Тады як неафіцыйная польская статыстыка ўказвае на лічбу, якая вар'юецца ад 1 мільёна 250 тысяч да 1 мільёна 600 тысяч. А лічба, агучаная паслом Ярэмічам у 1926 годзе, дасягае 2 мільёнаў 500 тысяч беларусаў.

Шысток да ўсяго сабраў сведчанні некаторых удзельнікаў перапісу, якія пазначалі, як пад пагрозай арышту беларусаў запісвалі палякамі, а цэлыя беларускія вёскі, у якіх былі касцёлы, наогул не перапісваліся ўжывую, а аўтаматычна занатоўваліся як польскія. На заканчэнне аўтар тлумачыць сітуацыю наступным чынам: «Такія скокі лічбаў перапісу вынікаюць, няма сумневу, з першапачатковай хлусні польскіх уладаў і з палітыкі культурнага вынішчэння забытай еўрапейскай нацыі — беларусаў».

Яшчэ адзін журналіст Іван Войда (Yvan Voyda) пісаў артыкулы пра Украіну і Беларусь. Звестак пра яго пакуль знойдзена зусім мала, каб можна было зразумець, адкуль яго інтарэс да Беларусі. На беларускую тэму асаблівай увагі заслугоўвае яго артыкул з серыі «Польшча без маскі» — «За вашу і нашу свабоду...» (Pour notre liberté et la vôtre...). Трапна і крытычна журналіст прадэманстраваў, як Польшча Пілсудскага цалкам забыла ці перакруціла важны для палякаў, беларусаў і летувісаў слоган «За вашу і нашу свабоду», пакінуўшы свабоду хіба адным палякам. Да ўсяго аўтар нагадаў французам пра актыўнае мінулае Беларусі ў ВКЛ, пра мінулае Беларусі, якая не паўстала толькі што, а існавала ў гісторыі Еўропы здаўна.

Іван Войда крытыкуе не толькі афіцыйную Варшаву, якая падманвае Еўропу і метадычна вынішчае беларускую актыўную супольнасць (справа 480 беларусаў Грамады), але і польскую левіцу, якая таксама глядзіць на Крэсы як натуральны працяг Польшчы. Аўтар заклікае Польшчу ўзгадаць пра сапраўднае пасланне слогану «За вашу і нашу свабоду», бо пакуль яно не мае сэнсу для беларусаў.

Існаванне газеты «Крык народаў» — цікавы прыклад французскай заангажаванасці ў падтрымку прыгнечаных народаў Еўропы і свету, прыклад французскай адкрытасці і зацікаўленасці еўрапейскай перспектывай, бо часцей і традыцыйна Францыя не цікавілася Усходняй Еўропай. Гэта адзін з апошніх глабальных франкамоўных журналісцкіх праектаў па змаганні супраць замоўчвання маргіналізацыі, а часам вынішчэння нацыянальных, рэлігійных і моўных меншасцяў як унутры Еўропы, так і па-за яе межамі.

Ніводная іншая французская газета не цікавілася і так актыўна не пісала пра Беларусь і беларусаў. А таму «Le Cri des peuples» займае асобнае месца ў гісторыі франка-беларускіх стасункаў і мусіць быць прыкладам сучасным французскім газетам, якія пішуць пра Беларусь часцяком з крывой перспектывы з Масквы ці Варшавы.

Паступова французская мова губляла статус і ўплыў, а разам з тым з арэны сыходзілі франкамоўныя актары, якія займаліся праваабарончай дзейнасцю ў маштабах міжваеннай Еўропы. Са знікненнем газеты ў 1929 годзе Беларусь (як і тая, што была за Польшчай, так і тая, якая, паводле газеты, «жыла ўпэўненей за Саветамі») згубіла сябра і мажлівасць знаёміць надалей франкамоўных еўрапейцаў са сваімі праблемамі. Такім парадкам, крык народаў, у прыватнасці беларусаў, сціх, і Францыя зноў — аж да самай незалежнасці Беларусі ў 1990-я гады — чула толькі голас Польшчы і Расіі.



Бернар Лекаш

# Паўлюк Трус: паэт крыштальнай чысціні

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**«Здароў, Паўлюк!» — так пачынаецца ліст Алеся Дудара да Паўлюка Труса. Гэтае маладое заліхвацкае вітанне і цяпер найлепш пасуе да аднаго з самых выбітных паэтаў-маладнякоўцаў, якому напачатку траўня грукнула 115 гадоў.**



Менавіта так і назвала сваю лекцыю, прысвечаную Паўлюку Трусу, літаратуразнаўца, пісьменніца і настаўніца Ганна Севярынец. Пра паэта яна распавядала ў межах праекта «На хвалі часу, у плыні жыцця» Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва і Выдавецкага дома «Звязда».

## Хлопчык за бараной

Пачала з верша — ці, дакладней сказаць, — з музыкі? Бо Паўлюк Трус — гэта нават не словы, а музыка. Ну паслухайце — хіба ж не спеў?

*А ў палёх, палёх*
*Ды быльнёг палёг,*
*Зацвілі сады*
*Цветам-шэранню.*
*І ў далёкі край,*
*За Дунай, Дунай,*
*Над сялом плывуць*
*Гусі шэрыя.*
*Ой, куды, куды*
*Вы, ды шэрыя гусі,*
*Ці ж няма вады вам*
*Тут, на Беларусі?..*

Нярэдка паэты пачуваюцца людзьмі лішнімі для сваёй эпохі, і ад таго — самотнымі. Але падобна на тое, што Паўлюк Трус быў чалавекам і паэтам абсалютна свайго часу — з маладым імпэтам, прагай перабудовы жыцця і ўсведамленнем свайго таленту.

«Гэта быў час, калі цяглавітыя беларусы адчулі, што могуць «людзьмі звацца» і ісці некуды ў сваіх марах пра плён. Куды — яны не ведалі, але разумелі, што трэба некуды ісці, як ідзе чалавек за плугам. Тое сялянскае адчуванне цяжкага шляху, які ты ўсё адно павінен прайсці, і якое да сёння закладзена ў нас, было ва ўсіх тых хлопцаў, якія прыходзілі тады ў літаратуру. І не важна, паходзілі яны з сялянскіх палеткаў ці з гарадскога бруку», — заўважае пісьменніца.

Менавіта на гэтай хвалі ў беларускую літаратуру прыйшоў Паўлюк Трус. У яго была беззаганная для таго часу біяграфія. У адрозненне ад большасці беларускіх паэтаў, ён нарадзіўся ў сапраўды беднай сялянскай сям'і і адпавядаў усім канонам маладога пралетарскага паэта, бо мусіў уздымацца з самай галечы.

Сям'я Труса была з пагарэльцаў, яны пераехалі ў Нізок, што ля Узды, з суседняй вёскі. Бацьку, Адаму, дасталася ўсяго дзве дзесяціны зямлі — гэта вельмі мала для сям'і з чатырма дзецьмі. Паўлюк мусіў пайсці ў парабкі. Калі бацька ўладкаваўся ў пана фурманам, васьмігадовы Паўлюк застаўся старэйшым мужчынам у хаце.

«Ёсць кранальны ўспамін Пятра Глебкі пра дзяцінства Паўлюка, калі яго малога ставілі за канём з плугам ці бараной, і ён павінен быў апрацаваць усе гэтыя няшчасныя дзве дзесяціны. І калі ён ішоў за кабылкай уперад, гэта было не так складана. А вось калі кабылка даходзіла да канца і трэба было паварочваць, тут была праблема, таму што перакінуць барану ў суседнюю раллю хлопчык не цягнуў. І ён садзіўся і рыдаў. Але ж ніхто, апроч цябе, гэтага не зробіць. Тады ён выплачацца, устане, і як-ніяк перакіне гэтую барану», — малюе літаратуразнаўца карціну цяжкага дзяцінства будучага паэта.

## Усеагульны ўлюбёнец

Але Паўлюк хацеў вучыцца. Бацькі ў яго былі непісьменныя, і наогул у яго асяроддзі лічылася, што навука дзецям непатрэбная. Але пасля сямейных спрэчак маці стала на бок сына, і Паўлюка адправілі ў вясковую школу. Там ён адразу ж паказаў сябе найлепшым вучнем, бо быў надта старанным. Настаўнікі хвалілі хлопца, і пасля школы бацька завёз яго ва Узду ў вышэйшую пачатковую вучэльню. Разам з Трусам там вучыліся будучыя маладнякоўцы Пятро Глебка і Алесь Якімовіч.

А ў 1923 годзе Паўлюк з'ехаў у Менск, каб паступаць у Белпедтэхнікум імя Ігнатоўскага. Ганна Севярынец распавядае, што гэта сапраўды легендарная ўстанова, таму што і выкладчыкі, і вучні яе пакінулі па сабе вялікі след у беларускай культуры.

«Тут выкладалі Якуб Колас, браты Лёсікі, Азбукін, Кіпель, Смоліч, прыходзілі выкладчыкі з БДУ, чытала лекцыі прафесура з Інбелкульту. Белпедтэхнікум быў узорнай установай, арганізаванай, каб рыхтаваць настаўнікаў-беларусістаў, краязнаўцаў, гісторыкаў — фронт тых, хто першым пойдзе на беларусізацыю», — тлумачыць даследчыца.

Адначасова на розных курсах тут вучыліся Паўлюк Трус, Лукаш Калюга, Сяргей Фамін, Сяргей Дарожны, Валер Маракоў, Зінаіда Бандарына, Наталля Вішнеўская. Міхась Зарэцкі кіраваў тут літаратурным гуртком, Тэраўскі — белпедтэхнікумаўскім хорам... Пазней, у 1930-х гадах, калі ў рэзюмэ было пазначана заканчэнне Белпедтэхнікума, да чалавека ўжо былі вялікія пытанні, бо гэта значыла, што ён свядома атрымаў «нацдэмаўскую» падрыхтоўку.

Але да тэрору 1930-х яшчэ далёка, жыццё поўнае надзей, а Паўлюк Трус — усеагульны ўлюбёнец у Белпедтэхнікуме: добра малюе, выдатна спявае, да таго ж — паэт.

Вершы тады пісалі ўсе, казалі нават: дзе паставіш мятлу — там будзе паэт. Але першы надрукаваны верш 20-гадовага Паўлюка Труса «Над возерам» — гэта нешта іншае, адрознае ад таго, што складалі навучэнцы Белпедтэхнікума ў той час. Твор дасканалы і з пункту гледжання вершаскладання, і з пункту гледжання вобразнасці:

*Возера дрэмле...*
*Вербы зялёныя*
*стан пахілілі*
*на сонную гладзь,*
*ў постаці ціхай,*
*пад ночы апонаю,*
*сны старажытнасці сняць.*
*Ўдовы-бярозы*
*сваімі каралямі*
*горда глядзяцца*
*ў люстэрка вады;*
*ззяюць крыштальнымі,*
*дзіўнымі хвалямі,*
*сцелюць на ваду*
*адбіткі-сляды.*
*Месяц-юнак,*
*круглаліцы, бялявы,*
*поглядам ніжа*
*азёрную глыб,*
*косы спусціўшы*
*на ўдумныя з'явы,*
*ціха плыве*
*над разлогам сяліб.*
*Зоры гараць*
*па-над возерам вольным,*
*човен цалуе*
*спакойную сінь,*
*плаўна калышацца*
*ўзмахам павольным,*
*будзіць нямую,*
*застыўшую плынь.*



ВСЕСОЮЗНАЯ АССОЦИАЦИЯ ПРОЛЕТАРСКИХ ПИСАТЕЛЕЙ
ПОЛЕССКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ
секция
ЧЛЕНСКИЙ БИЛЕТ № 16
Фамилия
Имя
Отчество
Литер. псевдоним
Год рождения 1904
Партийность
С какого года печатается
Время вступления в ВАПП
Пред. правления Полес. отд. ВАПП-а
192 7.
Место для фотографической карточки (обязательна)
Подпись владельца билета

Членскі білет Паўлюка Труса з Палескага аддзялення Усесаюзнай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў

Пасля гэтага верша Паўлюк Трус стаў ці не першым паэтам сярод маладых, пасля Міхася Чарота і Уладзіміра Дубоўкі. Да таго ж ён стаўся аўтарам адной з самых вядомых белпедтэхнікумаўскіх песень, напісанай на ўзор папулярных у той час «Кирпичиков».

Апроч таго разам з Пятром Глебкам і Максімам Лужаніным Паўлюк Трус рабіў вусную газету «Чырвоны прамень». Выглядала гэта так: раз на тыдзень на якой-небудзь белпедтэхнікумаўскай вечарыне хлопцы давалі нейкія навіны, а заадно прыпячатвалі ў сатырычных вершах студэнтаў і выкладчыкаў. Пры гэтым часта яны эксперыментавалі з формай: не проста выходзілі ўсе разам і чыталі, а зацяраліся сярод слухачоў і адзін за адным накрывалі залу сваім гумарам.

«Ад газеты нічога не засталося, бо яна існавала толькі ў вуснай форме. Хіба што некалькі радкоў — і тое іх у прыстойным месцы не цытуюць», — усміхаецца Ганна Севярынец.

Таму Паўлюк Трус быў чалавекам заўважным. Яшчэ не скончыўшы вучобу, ён выдаў першую кнігу «Вершы», і яна адразу стала з'явай у літаратурным жыцці.

Закадычным сябрам Труса быў Кузьма Чорны, які рэдагаваў газету «Беларуская вёска», дзе часта друкаваўся Паўлюк. І калі той прыходзіў у рэдакцыю, пачынаўся рогат — і працаваць было немагчыма.

«Тады Чорны казаў, каб Паўлюк ішоў на калідор і там, уладкаваўшыся на падваконні, што-небудзь напісаў. Той паслухмяна ішоў, пісаў, і калі асабліва добра выходзіла, то рагатаў і там», — распавядае літаратуразнаўца.

Па яе словах, Чорны вельмі любіў Труса, бо той быў блізкі яму ў захапленні вёскай і фальклорам — той базай, з якой вырастае літаратура. Адметна, што ў «Маладняк» Трус прыйшоў не як паэт-чыноўнік, а ўвасабляў менавіта мастацкую моц аб'яднання. Ён увёў у літаратуру рамантычны вобраз беларускай вёскі, які, зрэшты, тады быў патрэбны. Ганна Севярынец зазначае, што і па сёння значэнне Паўлюка Труса ў літаратуры заключаецца ў тым, што ён пераплавіў фальклорнае слова ў мастацкае.

## Паміж «Маладняком» і «Узвышшам»

Чалавек вельмі прастадушны, Паўлюк Трус быў з тых, хто не заўважыў пачатку ціску на «Маладняк» у чэрвені 1925 года.

Працяг на стар. 12 »

# БагатаДата

**Сусветны дзень без тытуню, курган Міцкевіча, беларуская Папялушка і дзень народзінаў ГУМу. А таксама іншыя цікавосткі ў нашым аглядзе.**

## 25 траўня

**1949.** У Мінску нарадзіўся музыка, спявак Леанід Барткевіч, удзельнік гурту «Песняры». У 1991 годзе разам з жонкай, славутай гімнасткай Вольгай Корбут, эміграваў у ЗША, а 2000-м яны развяліся, і Барткевіч вярнуўся на радзіму.

## 26 траўня

**Дзень хіміка ў Беларусі.**

**1799.** Пры Свята-Троіцкім жаночым уніяцкім манастыры ў Мінску адчыніўся гарадскі шпіталь — першая медычная ўстанова сталіцы. За савецкім часам гэта была 2-я бальніца. У 1923 годзе тут упершыню ў Беларусі было праведзена пераліванне крыві.

**1939.** У Полацку нарадзіўся архітэктар Аркадзь Караткоў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за планіроўку і забудову Наваполацку.

## 27 траўня

**1924.** У Навагрудку адбылася ўрачыстая закладка Кургана бессмяротнасці ў гонар паэта Адама Міцкевіча. Месца для помнага ўзгорку выбранае таму, што дзіцячыя гады творцы прайшлі ў ваколіцах горада, дзе адбываліся падзеі, апісаныя ў шэрагу яго твораў. Курган — гісторыка-культурная каштоўнасць.

**1959.** У вёсцы Роскі Сялец Аршанскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся доктар медыцынскіх навук і высокапастаўлены цягам многіх гадоў чыноўнік Аляксандр Косінец. Узначальваў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр «Навука і хірургія», быў рэктарам Віцебскага медыцынскага ўніверсітэта, працаваў намеснікам прэм'ер-міністра, старшынёй Віцебскага аблвыканкаму, кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта, цяпер — памочнік кіраўніка краіны.

## 28 траўня

**1934.** У Мінску адчынілася на той момант самая вялікая крама горада — ГУМ. Будынак быў размешчаны непадалёк ад сённяшняга, але ў вайну ён быў моцна пашкоджаны. Новы ГУМ пачыналі будаваць палонныя немцы, а ўнівермаг запрацаваў у ім у 1951 годзе.

## 29 траўня

**1909.** У Ваўкавыску ў сям'і цыркавых артыстаў нарадзілася актрыса Яніна Жэйма, якая праславілася роляй Папялушкі ў аднайменным савецкім фільме. Яшчэ яна вядомая па стужцы «Сяброўкі». Актрыса была мініяцюрная (рост 148 сантыметраў і 31-ы памер нагі), да 40 гадоў выглядала на юную дзяўчыну, таму выконвала ў кіно ролі падлеткаў. «Калі я выконвала ролю Папялушкі,



мне было 37 гадоў, а гераіня была равесніцай маёй дачкі», — згадвала Яніна Жэйма ў адным з інтэрв'ю. Падчас вайны была ў блакадным Ленінградзе, у 1957 годзе з трэцім мужам пераехала ў Польшчу. Памерла ў 1987 годзе ў Варшаве, а пахаваная ў Маскве.

**1939.** У пасёлку Руба, цяпер гэта ў межах Віцебску, нарадзілася актрыса Людміла Пісарава. Яна працавала ў трупе Коласаўскага тэатру і здымалася ў кіно (фільмы: «Плач перапёлкі», «Людзі на балоце»).

## 30 траўня

**1899.** У Дзвінску, цяпер Даўгаўпілс у Латвіі, нарадзіўся артыст, рэжысёр і культурна-грамадскі дзеяч тамтэйшай беларускай дыяспары Язэп Камаржынскі. Быў дырэктарам Беларускага народнага тэатру ў Рызе. У 1945 годзе арыштаваны і сасланы ў Сібір, у 1955 годзе вярнуўся ў Дзвінск, дзе ўдзельнічаў у пастаноўках спектакляў у мясцовым Доме культуры. Загінуў у выніку ДТЗ, калі ішоў на рэпетыцыю.

**1999.** Адбылася трагедыя на Нямізе ў Мінску, калі ў выніку таўкатні загінулі 53 чалавекі, пераважна моладзь ва ўзросце ад 14 да 20 гадоў. У гэты дзень каля Палацу спорту ладзілася піўное свята з канцэртам. Раптам усчалася залева — і многія людзі пабеглі хавацца ад яе ў пераход станцыі метро «Няміга». Там і здарылася смяротная цісканіна.

## 31 траўня

**Сусветны дзень без тытуню.**

**1924.** У Познані памёр кампазітар, скрыпач-віртуоз, дырыжор Канстанцін Горскі, ураджэнец Ліды. Працаваў канцэртмайстрам аркестра Вялікага тэатру ў Познані, хоць да гэтай пасады яму давялося, каб выжыць, граць паміж сеансамі ў варшаўскіх кінатэатрах. Аўтар дзвюх опер — «За хлебам» (паводле навелы Генрыка Сянкевіча) і «Маргер» (паводле паэмы Уладзіслава Сыракомлі).

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

# Паўлюк Трус: паэт крыштальнай чысціні

**« Працяг. Пачатак на на стар. 1**

Да гэтага часу чальцы аб'яднання стваралі літаратуру выключна пры дапамозе самакіравання і самаадукацыі. Але са з'яўленнем дакумента «О государственной политике в литературе» гэтая самая літаратура ператварылася ў зброю.

У тым жа дакуменце былі прапісаныя «свае», пралетарскія, пісьменнікі, «ворагі» і «спадарожнікі». Пачаўся падзел паэтаў на тых, хто ўсхваляе новы лад, і хто не — пры гэтым мастацкая вартасць твораў ніякай ролі не адыгрывала. Менавіта тады Дубоўка сказаў, што «Узвышша» будзе адлюстроўваць палітыку партыі ў тых варунках і межах, у якіх палічыць патрэбным. За што потым і атрымаў сваё…



Ганна Севярынец

Для Паўлюка Труса надышлі складаныя часы. Ён хацеў пісаць пра вербалозы, а ад яго патрабавалі, каб ён пісаў пра піянера і трактар. Ён спрабаваў, бо вельмі старанны, але разумеў, што атрымліваецца блага. Таму калі пачаўся адыход «Узвышша» ад «Маладняка», Паўлюк Трус вырашыў ісці за «Узвышшам».

Гэтая гісторыя стала адной з самых скандальных у даваеннай беларускай літаратуры. Трус падаў заяву на сыход з «Маладняка», прычым на пасяджэнні, на якім адбываўся гэты сыход, прысутнічалі ўсе высокія чыны, нават Мікалай Галадзед. Але на наступны дзень на Труса націснулі — і ён надрукаваў у «Савецкай Беларусі» адмову ад сваёй заявы ды вярнуўся ў «Маладняк». Ва «Узвышшы» гэта ўспрынялі як здраду.

Для самога Паўлюка гэта былі вельмі драматычныя абставіны. Потым ён прасіўся ў Глебкі, каб яго прынялі назад, бо ён не хацеў заставацца ў «Маладняку», бачачы, што аб'яднанне ператвараецца ў ідэалагічны інструмент.

Вакол Паўлюка Труса ўсчаўся вір, і таму пасля заканчэння Белпедтэхнікуму ў 1927 годзе замест паступлення ў БДУ, ён з'ехаў у Гомель і працаваў у «Палескай праўдзе». Пры гэтым яго чакалі ў любой мінскай рэдакцыі, а яго творы на філфаку былі ўключаныя ў праграму па літаратуры. Але Паўлюк з'ехаў, каб застацца сам-насам з сабой. Ён ездзіў па вёсках з лекцыяй «Беларусь і сучасная культура», і з вакальнымі нумарамі. Вандраваў адзін і цягнуў беларушчыну на зрусіфікаваную Гомельшчыну, якая толькі-толькі была далучаная да БССР. Там жа пачаў эксперыментаваць з жанрамі і формамі, пісаў санеты, трыялеты, вершы са складанай рыфмай і ў прозе.

У гэтым жа годзе выйшаў другі зборнік вершаў Труса «Ветры буйныя», які ўшчэнт разнёс у сваёй рэцэнзіі Алесь Дудар пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі. Аднак Трус успрыняў гэтую крытыку як навуку і ўбачыў у ёй магчымасці для далейшага развіцця. Але часу ў яго на гэта заставаўся толькі год…

## «Хлопцы, я пайду»

У 1928 годзе Паўлюк вярнуўся ў Менск і паступіў у БДУ. Але сітуацыя змянілася. Ва «Узвышша», дзе былі яго сябры, яго так і не прынялі, дзяўчына, якую кахаў, не адказвала ўзаемнасцю. Да таго ж ён зусім не піў, таму «ўліцца» ў якую-небудзь кампанію ў яго не атрымлівалася. Часам пры сустрэчах ён замаўляў сабе піва, каб быць падобным да іншых, але не піў нават і яго, і адчуваў сябе самотным. Павесяліцца ўдавалася хіба што з суседам па кватэры Міколам Хведаровічам, разам з якім пад псеўданімам Себасцьян Сатробінскі яны выдалі зборнік літаратурных пародый.

Улетку 1929 года пасля першага курса Паўлюк Трус адзін пешшу выправіўся ў падарожжа па Магілёўшчыне. Вяртаючыся, ён падышоў да Ждановічаў і спыніўся ў сяброў — Глебкі і Хведаровіча, — якія знаходзіліся там на адпачынку. Хведаровіч успамінаў, што ў адзін з вечароў, 29 жніўня, Паўлюк лёг ля вогнішча, а на твары ў яго выступілі буйныя кроплі поту. Звычайна вясёлы, ён у той вечар быў сам не свой. Крыху паляжаў, а потым сказаў: «Хлопцы, я пайду». І пайшоў у Мінск, у лякарню, дзе яго прынялі з тэмпературай 39. Не стаў казаць, што ён паэт, а назваўся студэнтам. Таму ім моцна не займаліся, паклалі ў калідоры, і там на наступны дзень, 30 жніўня, ён памёр ад тыфу. Яму было 25 гадоў.

Потым, калі зразумелі, што сканаў паэт, узняўся вялікі вэрхал, і ніхто не мог паверыць, што Паўлюка не стала. Гэта была першая смерць у маладой беларускай літаратуры.

«Хавалі яго ўсім Мінскам на Вайсковых могілках. Яго неслі на руках ад Дома пісьменніка (стаяў прыкладна насупраць сённяшняга КДБ. — НЧ.), хаця быў адмыслова выдзелены катафалк, запрэжаны белымі конямі, — распавядае Ганна Севярынец. — Тады на могілках сабраліся ўсе, гэта быў дзень, калі расколатая беларуская літаратура ўз'ядналася, каб праводзіць Паўлюка. Не было толькі Дубоўкі, бо ён быў у Маскве, і Дудара, бо той быў у высылцы. Вянок з вершаў Трусу склалі некалькі дзясяткаў паэтаў — усе яны адгукнуліся на смерць Паўлюка. І выбухам негадавання сустрэлі выступ нейкага камсамольскага функцыянера, які сказаў, што на месца Труса прыйдуць тысячы новых Трусаў».

Замест Паўлюка Труса ў беларускую літаратуру так ніхто і не прыйшоў. Па словах Ганны Севярынец, ён стаў адзіным у сваім родзе «паэтам крыштальнай чысціні» і незвычайнага прыроднага таленту. І хто ведае — можа, такім чынам ён забяспечыў сабе лепшы сыход, чым той, які б, безумоўна, чакаў яго напрыканцы 1930-х. Тады сталі з'яўляцца спробы нападак на Труса і абвінавачваннях яго ў «нацдэмаўшчыне», але ж з мёртвымі, як вядома, не ваююць…

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №791

Падпісана да друку 24.05.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.